# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ЕОΙΙАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.
Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.

**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 20 цэнтаў, Канада — 20 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna",
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND„

№ 47-48 (329-330) — Нядзеля, 25 лістапада 1956 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 10


## Да 36-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня

Набліжаецца ўзноў дзень 27-га лістапада, дзень, які вялікімі й зыркімі літарамі ўпісаны ў гісторыю беларускага змаганьня за сваё незалежнае дзяржаўнае жыцьцё. Збройны Чын Случчакоў у дні 27-га лістапада 1920 году, накіраваны супраць сьмяротнага ворага нашага нацыянальнага вызваленьня — маскоўскага бальшавізму, хай толькі прыгадаем яго, глыбока ўзрушвае нашае беларускае сумленьне напамінам аб тым вялікім абавязку, аб тэй вялічэзнай ахвяры, якую зложылі гераічныя Случчакі на аўтар вызваленьня нашае горка дасьветчанае конам Бацькаўшчыны. Бо гэткі-ж абавязак і гэткая-ж ахвяра, што ўжо выканалі Слуцкія змагары 27-га лістапада 1920 году, чакае на кажнага з нас у будучыні.

Гісторыя нашага народу знае шмат бліскучых збройных чынаў, калі нашыя продкі патрапілі ня толькі абараніць непарушнасьць і незалежнасьць свае дзяржавы, але й уславіць беларускую зброю на ўвесь сьвет. Таму, аддаючы славу памяці Слуцкіх паўстанцаў і ўсіх Беларусаў, што ахвяравалі сваё жыцьцё ў змаганьні за незалежнасьць Бацькаўшчыны-Беларусі, прыпомнім тут, да рэчы, і аб адным з далёкіх пэрыядаў нашае змагарнае мінуласьці — аб войнах Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўшчынай у 1507—1508 і ў 1512—1522 гадох, калі нашыя прадзеды, кроў ад крыві й косьць ад касьці якіх ёсьць нашае сучаснае беларускае пакаленьне, баранілі незалежнасьці свайго гаспадарства супраць тае-ж маскоўскае навалы, як і ўдзельнікі Слуцкага Збройнага Чыну ў лістападзе 1920 году, калі слаўная Слуцкая брыгада, створаная напрацягу ледзь ня тыдня на невялічкай вольнай ад варожае акупацыі прасторы Беларусі — Случчыне, выйшла на змаганьне з бальшавіцкай чырвонай арміяй, што залівала ад усходу наш край, шэсьць тыдняў паўстрымоўвала бальшавіцкія горды, сплыла крывёю, а не здалася панявольніку.

У часох змаганьня нашых прадзедаў з Маскоўшчынай, дзяржава нашая звалася Вялікім Княствам Літоўскім, Літвою, таму апісваючы войны 1507—1522 год, мы й будзем трымацца гэтых нашых старых імёнаў. У гэным часе Вялікім Князем Літоўскім быў унук Ягайлы — Жыгімонт, які быў адначасна й каралём польскім. Жыгімонту давялося двойчы ваяваць з маскоўскім князем Васілём Трэйцім, які асабліва ненавідзеў Літву й часта гаварыў да сваіх баяраў: «Доколе конь мой будет ходить, и меч рубить, не дам покоя Літве».

Да першае вайны між Жыгімонтам а Васілём спрычынілася зрада аднаго зь Северскіх літоўскіх удзельных князёў — Міхала Глінскага — які дзеля асабістых амбіцыяў збунтаваўся супраць Вялікага Князя Жыгімонта. Глінскі напісаў быў Маскоўскаму князю Васілю Трэйцяму тайны ліст у якім пераконваў Васіля,, каб той пачаў вайну зь Літвою, прыракаючы пераход на бок Масквы ня толькі свой, але й іншых удзельных літоўскіх князёў. Васіль Трэйці, які й сам рыхтаваўся да вайны зь Літвою, не чакаў доўга і ў пачатках 1507-га году уварваўся на чале вялізарнае, як на тыя часы, арміі ў межы Вялікага Княства Літоўскага, палячы гарады й вёскі, забіваючы жыхарства й рабуючы іхную маемасьць. Жыгімонт напрацягу кароткага часу патрапіў змабілізаваць літоўскую армію й выйшаў супраць маскоўцаў. Аднак, Васіль Трэйці не адважыўся ўступіць у адкрыты бой зь літоўскай арміяй і адступіў на прастору Маскоўшчыны. Калі Жыгімонт распусьціў сваё войска, маскоўскі князь паўтарыў напад на Літву ў 1508 годзе. Вялікі князь Жыгімонт у другі раз сабраў літоўскае войска й зноў выйшаў напярэймы маскоўскім рабаўнікам, якія зь няменшаю, чымся першы раз дзікасьцяй, нішчылі прымежныя літоўскія прасторы. Але й гэтым разам маскоўская армія ня прыняла бою й адступіла ў межы Маскоўшчыны. Літоўскае войска прасьледвала й тутка маскоўцаў, што ўцякалі, хаваючыся ў непраходных лясох і балатох свае Радзімы, аднак, бяз большае ўдачы, бо непрацярэбляныя маскоўскія пушчы баранілі ім дарогі. Урэшце паміж Літвою й Масквою было зробленае замірэньне на шэсьць год. Пасьля падпісаньня замірэньня Жыгімонт распусьціў літоўскае войска, пакінуўшы адно невялікія гарнізоны на прыгранічных замках, даручыў вайсковыя справы Вялікаму Гэтману Літоўскаму князю Канстанстыну Астроскаму й выехаў сам у Кракаў, дзе яго чакалі справы Польскага каралеўства.

Маскоўскі-ж князь Васіль Трэйці, ледзь падпісаўшы замірэньне зь Літвою, адразу-ж пачаў рыхтавацца да новае вайны зь ёю. А таму, што ў часе першае вайны зь Літвою Васіль Трэйці не адважыўся ўступіць у бой зь літоўскім войскам дзеля таго, што яно, колькасна меншае за маскоўскае, было, аднак, шмат ляпей азброенае тэхнічна й перавышала маскоўскую армію сваёй тактыкай Васіль Трэйці, каб выраўнаць згаданыя недахопы, увайшоў у ваенны хаўрус зь нямецкім каралём Максыміліянам. Максыміліян за золата прыслаў у Маскву сваіх вайсковых інструктароў і майстроў дзеля ліцьця гарматаў і ня мінула чатырох год, як маскоўская армія была цалкам рэарганізаваная й навучаная нямецкімі інструктарамі.

Не чакаючы канца шасьцігадовага замірэньня, падпісанага зь Літвою, у сьнежні 1512 году Васіль Трэйці пайшоў па Літву зь вялікім войскам. 19-га сьнежня 1512 году войска гэтае абкружыла Смаленск і пачало яго здабываць. Зраднік князь Глінскі, што пісаў маскоўскаму князю тайныя лісты, сулячы свой пераход на маскоўскі бок, выступіў цяпер ужо зусім адкрыта супраць свайго краю, далучаючыся із дружынаю да маскоўскіх войскаў. Паўтары тысячы гарматаў, падначаленых Немцу Стэфану, пачалі біць па Смаленску. У тыя часы Смаленск быў вельмі важным стратэгічным пунктам. Ён стаяў на самым беразе Дзьвіны. Гэтае ўзвышша было вельмі дагоднае дзеля пераходу войскаў з захаду на ўсход ды наадварот ( г. зв.

(Заканчэньне на 7-ай бачыне)

## «Наша справа - справа праўдзівая...»

Гэтыя словы напярэдадні Слуцкага Паўстаньня былі выпісаныя ў дэклярацыі Рады Случчыны; гэтую думку насілі ў сабе паўстанцы-случчакі, рыхтуючыся да ахвяры ў імя жыцьця Бацькаўшчыны; гэтая праўда была воляй цэлага народу, калі ён наважана выйшаў «на карту Эўропы».

«... — Справа праўдзівая, а праўда заўсёды закрасуе» — гаварылася далей у тэй-жа дэклярацыі случчакоў...

Ад часу, калі пад гэтымі словамі падпісваліся кіраўнікі беларускага збройнага чыну, калі іх чыталі й слухалі сяляне-жаўнеры, ды калі паміралі пасьля, каб найвышэйшай ахвярай давесьці іхную праўдзівасьць, — мінае 36-ы лістапад.

Шмат каму з гэных тысяч гарачых патрыётаў давялося застацца ляжаць на палёх Случчыны. Шмат хто з тых, што несьлі «праўдзівую справу» пад сваімі баёвымі сьцягамі, выбылі з шэрагаў абаронцаў Беларускае Народнае Рэспублікі. Нам застаўся прыклад іхнага геройскага чыну ды сэнс іхнае ахвяры.

36 год часавага прастору дзеліць нас ад Слуцка ды тысячы кілямэтраў — ад Случчыны й Беларусі. Што бачым **мы** з гэтае дваякае адлегласьці? Які сэнс высілку й ахвяры дае **нам** гэтая пэрспэктыва? Бо мы-ж зьяўляемся працягам даўгога ланцуга падзеяў, што ўзаемна спрычыняюцца ды чапляюцца адна за адну. І з нас гэты ланцуг пойдзе далей, і мы мусім стацца ягонымі зьвеньнямі.

✡

«Наша справа — справа праўдзівая» — заявілі ў 1920 годзе дзесяць тысяч слуцкіх абаронцаў свабоды й незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

Дэклярацыя Рады Случчыны ня была толькі пастановай. Яна была найглыбейшым пераканаьнем тысяч людзей, што любілі сваю зямлю й жадалі ёй дабра. Яна была рэальнасьцяй, як рэальнымі былі кулі, штыхі і кроў на загонах Беларусі. Гэта адзін з наймацнейшых дакумантаў нашае найнавейшае гісторыі, дакумант беларускае незалежнасьці, пад якім падпісаліся — не на паперы, а на сваёй зямлі — дзесяць тысяч паўстанцаў.

На жорсткіх дарогах жыцьця нам шмат даводзілася цярпець і здабывацца на вытрываласьць. Рабілі мы гэта ня толькі дзеля саміх сябе. Нас трымае на духу нейкая вышэйшая сіла, што йдзе з адчуваньня сябе неаддзельнай часткай вялікага нацыянальнага адзінства, часткай таго шляхотнага паняцьця, што мы акрэсьліваем словамі «народ» і «бацькаўшчына». А ўсё-ткі як мала мы ведаем, што гэта — паміраць! Таму часта й цаніць ня ўмеем ці ня можам тых вартасьцяў, за якія нашыя папярэднікі й сучасьнікі аддалі сваё жыцьцё.

«Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мне народзе, — «спад шыбеніцы» пісаў Кастусь Каліноўскі, ня маючы навет 26 год. — Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але ня жаль загінуць за тваю праўду»... На Случчыне ляглі сотні такіх-жа маладых і шчырых. «Беларусь павінна быць вольнай, незалежнай рэспублікай...» — дамагаліся слуцкія паўстанцы, і ў гэтае дамаганьне ўлажылі ўсё, што мелі.

✡

А мы? — Сяньня мы прыгадваем мінулае. Было гэта 36 лістападаў таму — даўно, вельмі даўно. І гэтая даўнасьць якжа часта становіцца сьцяной між намі а гэным палымяным узрывам беларускага патрыятызму. Мы ўшаноўваем памяць, схіляем галовы. Аднак, ад лістапада да лістапада ня можам пазбыцца гэнага пачуцьця даўнасьці, што часта паралізуе запал і імпэт нашых высілкаў. Але хіба-ж мы самі — ня мінулае? Хіба мы, ў нашым нацыянальным жыцьці, пераставалі калі-небудзь дыхаць тым, што загінула да нас і за нас? Калі й дзе мы абыйшліся, каб не назваць тысячаў мучанікаў і мільёнаў ахвяраў? Калі мы гаварылі аб тым, што мы хочам дасягнуць, каб не спамінаць таго, што да нас зроблена?

І калі сучаснасьць — у мінулым, дык яшчэ больш мінулае — у сучаснасьці. Бо хто з нас ня чэрпаў сілы з тае на-

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

Натальля Арсеньнева

## *Вы пайшлі паміраць*

*Памяці Слуцкіх Змагароў*

«Мы пайшлі паміраць,
каб жыла Беларусь».
Гэтак звалася драма, якую прад сьветам
вы зайгралі тады (ападаў напару
лістапад
і на вецьце й на рунь,
і ў разоры...),
Вы зайгралі «на біс» бяз суфлёраў,
бяз рад,
бяз куліс,
бяз кінкетаў,
— дзіўныя акторы.

Рэквізыт ваш быў просты:
рызман палявін
паабапал,
пры ўзьлесьсі гасьцінец сацьмелы,
шчыльна ўбіты ў шчыт ельніку месяца
клін,
золь на вейках,
сівы,
важкі подал шынэлі,
жменя куль,
трохлінейкі рамень праз руку
і бандаж у крыві —
бел-чырвоны і белы.
Трыццаць ночаў і дзен
вы гулялі... Адны...
і ніхто,
і ніхто вам ня біў у далоні,
хоць гучней раз у сто,
як званы ўперазвон,
сэрцы нечыя білі вам
там... панад лоняй
недатканых красён,
перасталай дзяжой,
колкай голкай, што ў шво за сьлязіма
ня лучыць,
над калыскай, ставочнай паўночай ужо,
неспакойна
так білі,
балюча...
Але ўпойны,
салодкі быў смак перамог,
сьпеў крыві,
маладая, узьлётная радасьць!
Дык і гралі вы...
зь верай,
што ўрадзім, што Бог...
і крыжы, што гужамі над пражай дарог,
прарасьлі, што каханьне...
Ўсьцяж вы гралі, аж роем дапалі мяжы,
ўжо ня воі
тады,
а трагічныя здані,
аж хапілі сьсінелыя вусны вады
з набрынялай, шчарнелае
Лані...
Тут — далі вам заслону...
і вы перайшлі
Рубікон свой няслаўны,
а гэткі славуты,
каб, як здаўна,
зноў кону пытацца: «калі?»
неабутыя,
шчасьце тачаць для абутых,
верадзіць вашай верай
людзкія вульлі,
ў рукі хухаць,
у пясьці...
й маўчаць,
хоць баліць —
у замкнёныя
стукацца дзьверы.
Мітусь год,
стырты спраў
прытрусілі крыжы,
што над пражай дарог,
папрысушвалі раны...
Але чын
Тых Што Йшлі Паміраць
будзе жыць,
аж ня кінуць хінуць між збажын,
на сьвітаньні,
пакаленьні
калені ў крыві, у гразі,
прад Табою, сьвятою, Айчына,
Аж Ты, Маці, гаркіх не сцалуеш сьлязін
зь вейкаў,
вуснаў
ды ранаў
Змаганьніка — Сына.

**Кастрычнік 1956.**

### АД АДМІНІСТРАЦЫІ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

**У сувязі з набліжэньнем Новага 1957 году пара ўжо аднавіць падпіску на тыднёвую беларускую газэту «Бацькаўшчына«. Цана газэты астаецца тая самая, што й дагэтуль. Яна паказаная на першай бачыне «Бацькаўшчыны» з правага боку ў самым версе. Гэтаксама, як і дагэтуль, падпішчыкі «Бацькаўшчыны» будуць і ў 1957 годзе атрымліваць бясплатна месячны ілюстраваны часапіс для дзяцей «Каласкі».**

**Адміністрацыя «Бацькаўшчыны»**

# Навальніца над Усходняй Эўропай

**Ад Рэдакцыі:** Ніжэй передрукоўваем у скарачэньні артыкул Мілёвана ДЖЫЛЯСА аб гістарычным значэньні польскай і вугорскай рэвалюцыяў. Гэты артыкул зьмешчаны ў сацыялістычным тыднёвіку «Нью Лідэр» у Нью Ёрку, з увагі на свайго аўтара й зьмест, зьвярнуў на сябе ўвагу грамадзкасьці ўсяго вольнага сьвету, асабліва прагрэсыўных элемэнтаў Захаду.

Мілёван Джыляс быў да 1954-га году першай, пасьля Ціты, асобай у Югаславіі. Паэта, журналісты і тэарэтык камунізму — Джыляс — больш, чымся 30 гадоў зьяўляўся сябрам югаслаўскай кампартыі. У часе вайны ён ачольваў чырвоных партызанаў у Чарнагоры, пасьля вайны стаўся віцэ-прэзыдэнтам Югаславіі, але ў 54-ым годзе быў звольнены з гэтага становішча й выключаны з ЦК югаслаўскай кампартыі за тое, што дамагаўся скасаваньня аднапартыйнай сыстэмы й стварэньня дэмакратычнай сацыялістычнай апазыцыі ў Югаславіі.

19-га лістапада сёлета Джыляс быў у Белградзе арыштаваны.

*

Зь перамогаю нацыянальнага камунізму ў Польшчы пачалася новая эпоха ў гісторыі камунізму і ў гісторыі паняволеных народаў Усходняй Эўропы. З вугорскаю рэвалюцыяй пачалася новая эпоха ў гісторыі ўсяго людзтва.

Гэтыя дзьве падзеі, кажная пасвойму, добра выяўляюць нутраны стан усходня-эўрапэйскіх краінаў. Падзеі ў Польшчы ўзмоцнілі сярод кампартыяў імкненьне да роўнасьці з Масквой. Вугорская-ж рэвалюцыя зрабіла вялікі крок у будучыню і ўзьняла пытаньне свабоды ў камунізьме, г. зн. пытаньне аб замене камуністычнай сыстэмы новай грамадзкай сыстэмай.

Хоць гэтыя дзьве падзеі і адбываліся амаль аднachасна, але паміж імі ляжыць цэлая эпоха. Зьмены ў Польшчы азначаюць трыумф нацыянальнага камунізму, але вугорскае паўстаньне — гэта штосьці значна большае, зусім новае зьявішча, ня менш важнае, чымся француская ці расейская рэвалюцыі.

Гэтыя падзеі паставілі на парадак дня наступныя праблемы:

ПЕРШАЕ: далейшыя пэрспэктывы нацыянальнага камунізму;

ДРУГОЕ: замена камунізму новай сыстэмай і права народаў, што да гэтага часу знаходзіліся пад камунізмам, выбіраць свой собскі, некамуністычны шлях разьвіцьця, і

ТРЭЦЯЕ: пытаньне будучай палітыкі Савецкага Саюзу — ня толькі вонкавай, але й нутранай.

Дасьветчаньне Югаславіі даводзіць, што нацыянальны камунізм ня можа выйсьці за межы камунізму, як такога. Гэта значыць, што ён ня можа ўвесьці такіх рэформаў, якія-б паступова перэтварылі камунізм у свабодны лад. Гэты прыклад сьветчыць аб тым, што нацыянальны камунізм можа толькі парваць з Масквой і стварыць сваю собскую, таксама камуністычную сыстэму. Было-б аднак вельмі памылковым уважаць, што гэтае дасьветчаньне Югаславіі можа быць ужыта ўва ўсіх краінах Усходняй Эўропы.

Югаслаўскі супраціў Маскве ў 1948 годзе быў магчымым перадусім таму, што ў Югаславіі рэвалюцыя адбылася ў часе барацьбы супраць замежнай акупацыі. У выніку гэтай рэвалюцыі была створаная незалежная камуністычная дзяржава, а разам зь ёй і новая кляса — камуністычная бюракратыя. Ніводная з краін Усходняе Эўропы ня мела такой клясы, бо там камуністыя атрымалі ўладу з рук савецкага рэжыму. Дзеля гэтага, між югаслаўскім нацыянал-камунізмам і нацыянал-камунізмам іншых краін ёсьць істотная розьніца да роўнапраўнасьці з Масквой.

Югаслаўскі нацыянальны камунізм быў перадусім супрацівам Маскве з боку кампартыі, гэта значыць супрацівам кіраўнікоў гэтай партыі. Зразумела, народ не пярэчыў гэтаму, але й не падтрымоўваў. Якраз наадварот. Толькі — інтарэсы і ініцыятыва кіраўнікоў адыгралі пры гэтым галоўную й вырашальную ролю. Супраціў кіраўнікоў заахвочваў супраціў масаў. Дзякуючы гэтаму, увесь працэс эманцыпацыі ад Масквы быў кіраваны й кантраляваны згары, а тэндэнцыі пайсьці далей, да дэмакратыі, былі адносна слабыя. Калі рэвалюцыйнае мінулае Югаславіі было зьявішчам пазытыўным у той час, калі яна змагалася за незалежнасьць ад Масквы, то цяпер яно сталася перашкодай, як толькі давялося йсьці далей, у кірунку да палітычнай свабоды.

У краінах-жа ўсходняй Эўропы мы маем справу з цалкам супрацьлежным зьявішчам. Там камуністычны супраціў Маскве быў вынікам незадаваленьня народных масаў тэндэнцыі выйсьці за межы нацыянальнага камунізму, як такога. Але ўсюды кіраўнікі могуць кантраляваць ці падпарадкаваць сабе шырокія масы, і дзеля гэтага ў некаторых выпадках яны намагаюцца запавольніць працэс адыходу ад Масквы, як, напрыклад, у Чэхаславаччыне і ў Румыніі.

Югаславія ня толькі як прыклад, але і, дзякуючы ініцыятыве сваіх кіраўнікоў, адыграла вялікую ролю ў пераходзе Ўсходне-Эўрапэйскіх краінаў да нацыянальнага камунізму, але толькі ў пачатку. Як цану за пагадненьне зь Белградам, Масква вымушаная была прызнаць, прынамся на словах, роўнасьць Югаславіі і ейны «незалежны шлях да сацыялізму». Такім чынам, глыбокае незадаваленьне ўсходня-эўрапэйскіх народаў здабыло легальныя магчымасьці для свайго выяўленьня. Абмежаныя, але ўсё-ж дазволеныя пратэсты супраць няроўнасьці ў ваднос\інах да Масквы пачалі ператварацца, а ў Вугоршчыне ўжо ператварыліся, у пратэст супраць сыстэмы наагул.

Югаславія падтрымлівала гэты рух незадаваленьня да таго часу, пакуль ім кіравалі камуністычныя кіраўнікі. Але як толькі ён пайшоў далей, як, напрыклад, гэта сталася ў Вугоршчыне, Югаславія выступіла супраць. Таму Югаславія і паўстрымалася ад галасаваньня ў Радзе Бясьпекі Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў, у сувязі з пытаньнем савецкай інтэрвэнцыі ў Вугоршчыне. Гэта давяло, што югаслаўскі нацыянальны камунізм ня можа — у межах свае замежнае палітыкі — адыйсьці ад сваіх вузкіх ідэялёгічных пазыцыяў і клясавых інтарэсаў бюракратыі. Апрача таго, гэтым выявілася, што нацыянальны камунізм Югаславіі згодны адмовіцца навет ад тых прынцыпаў роўнасьці і няўмешваньня ў чужыя нутраныя справы, на якіх асноўваліся ўсе посьпехі югаслаўскага камунізму ў барацьбе з Масквой. Такім чынам югаслаўскі прыклад выявіў тэндэнцыі нацыянальных камуністых, як у нутранай, так і ў замежнай палітыцы; ці, інакш кажучы, выявіў межы да якіх яны хочуць ісьці. Аднак, жаданьне — гэта адно, а магчымасьці — зусім другое.

Ува ўсім тым, што адбылося ў Польшчы й Вугоршчыне, Масква зь ейным імпэрыялістычным апэтытам была ня толькі наглядальнікам, але й актыўным удзельнікам Масква ўступіла нацыянальнаму камунізму Польшчы, каб унікнуць выбуху паўстаньня і выйграць час. Прыход да ўлады Гамулкі, гэта ня толькі вынік заслугаў польскіх камуністых, але ў вялікай меры й вынік кампрамісу паміж Масквой і абуджанымі масамі польскага народу. Гамулка, здабыўшы незалежнасьць ад Масквы, зрабіў гістарычны крок наперад. Але із сваімі палавіннымі рэформамі ён хутка апынуўся перад выбарам, які быў прадбачаны ў Маскве: гэта быў выбар паміж нутранай дэмакратыяй, якая сталася непадзельнай часткай сапраўднай дэмакратыі наагул, і незалежнасьцю ад Масквы, з аднаго боку і лучнасьцю зь ёй дзеля ўтрыманьня манаполю камуністых на ўладу, з другога. Падзеі ў Вугоршчыне толькі прысьпешылі неабходнасьць выбару, ад якога Гамулка ня можа ўхіліцца. Перамога нацыянальнага камунізму ў Польшчы — гэта хутчэй пачатак новых канфліктаў у самым краі і новых непаразуменьняў з Масквой.. Цяжка сказаць, ці нацыянальны камунізм у Польшчы захоча свабоды й незалежнасьці, ці таталітарнага кіраваньня й залежнасьці ад Масквы.

Аднак, што да Вугоршчыны, дык гэтыя канфлікты цяпер засталіся ззаду. Там ня толькі зьнікла сталінская група, там зрокся камуністычнай сыстэмы цэлы народ наагул. Спачатку Масква намагалася замаскаваць сваю інтэрвэнцыю, перадаючы ўладу нацыянальнаму камунізму ў васобе ІМРЭ НАДЗЯ. Але Надзь мог увесьці нацыянальны камунізм толькі з дапамогай савецкіх штыхоў, а гэта пагражала ліквідацыяй камунізму наагул. Апынуўшыся перад выбарам між савецкай акупацыяй і незалежнасьцю, адважыўся ахвяраваць партыю і камуністычную ўладу, якая й так ужо была падточаная, дзеля дабра краіны й свабоды. Вычуваючы падазроную гульню Масквы, ён дамагаўся вываду савецкага войска, абвесьціў нэўтральнасьць Вугоршчыны й папрасіў дапамогі Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў. І ягоны ўрад, да таго часу мала значны, адразу-ж стаўся сымбалем нацыянальнага супраціву.

Масква ўжо не магла выратаваць вугорскага камунізму. Яна была пастаўленая перад выбарам: або выйсьці з Вугоршчыны, або акупаваць яе. І ейны імпэрыялізм сьцінуў зь сябе апошнюю «сацыялістычную» маску... Масква здушвала вугорскую рэвалюцыю ня толькі з гледзішча на замежныя але й на нутраныя справы. Югаслаўскі бунт паказаў сьвету імпэрыялізм Масквы ў ваднос\інах да камуністычных краінаў; вугорская рэвалюцыя пагражала выявіць сутнасьць савецкай нутранай сыстэмы, паказаўшы яе ўва ўсёй галізьне, як рэжым новай эксплятататарскай клясы — партыйнай бюракратыі. Калі-б удалося абараніць вугорскую рэвалюцыю ад савецкай інтэрвэнцыі, дык Маскве сапраўды было-б цяжка замаскаваць свае нутраныя канфлікты шляхам вонкавых заваёваў і спасыланьняў на нібыто «сусьветную місію». Савецкая сыстэма была-б адразу зрэдукаваная да ўласных дзяржаўных граніцаў, але й там народы павінны былі задумацца над сваім становішчам і сваёй будучыняй; ды ня толькі народы, але й іхныя правадыры. Яны мусілі-б падзяліцца на розныя групы, якія не дапусьцілі-б да ўзаемных чыстак і былі-б змушаныя шукаць падтрымкі з боку народаў. Такім чынам, і ў самым Савецкім Саюзе пачаліся-б новыя працэсы.

Напад Ізраэля, Англіі й Францыі на Эгіпт ня можа на даўжэйшы час адцягнуць увагі ад падзеяў у Усходняй Эўропе, ня гледзячы на тое, што гэты напад, бяссумлеву, заахвоціў самыя рэакцыйныя, самыя агрэсыўныя элемэнты ў Савецкім Саюзе зрабіць расправу над вугорскім народам. Гісторыя чалавецтва зьмяняецца на тэрыторыі Усходняй Эўропы, а таму там сяньня і цэнтр увагі. Каляніяльная вайна на Блізкім Усходзе спыніцца таксама. Масква і ўсе іншыя камуністычныя рэжымы, кажны пасвойму, апынуліся сяньня перад выбарам, якога ніхто зь іх яшчэ ніколі ня меў. Камуністычныя рэжымы ўсходня-эўрапэйскіх краінаў мусяць або парваць з Масквой, або, ў іншым выпадку стацца яшчэ больш залежнымі ад яе. Ніводная з гэтых краінаў, навет і Югаславія, ня зможа ўнікнуць гэтага выбару. Ні ў якім выпадку нельга спыніць руху масаў, усёроўна, ці гэты рух будзе йсьці за югаслаўска-польскім, ці вугорскім, ці яшчэ якім прыкладам.

Ніхто ня можа дакладна прадбачыць, які курс возьме ўрэшце Масква. Сяньня яна грае падвойную ролю: на словах прызнае нацыянальны камунізм, але аднachасна падкопвае яго тым, што да гэтага часу не зраклася ні гэгэмоніі, ні імпэрыялізму. Праўда, што Савецкі Саюз у паняволеных краінах замаскоўвае сваю інтэрвэнцыю і ціск, як «дапамогу» і «забесьпячэньне» камунізму. Аднак, у ягонай дзейнасьці гэткае апраўданьне грае вельмі малую ролю. Палітыка Масквы ў ваднос\інах да камуністычных краінаў выразна ілюструе ейныя намаганьні не дапусьціць да распаду імпэрыі і замацаваць менавіта савецкі камунізм у ягонай кіраўнічай ролі; палітыка Масквы адлюстроўвае ейнае намаганьне выкарыстаць нацыянальны камунізм, як спосаб прыкрыцьця свае імпэрыялістычнае экспансыўнае палітыкі.

Аднак, у гэты самы час уся гэтая дзейнасьць Масквы ўцыгвае яе ня толькі ў вонкавыя, але і ў нутраныя канфлікты Можна з пэўнасьцю сказаць, што ў сярэдзіне самога савецкага кіраўніцтва існуе разрыў, і што навет група найбольшых рэакцыянэраў і імпэрыялістых (так званых сталінцаў) хістаецца ў сваіх учынках. Уплыў гэтае групы сяньня перамагае, асабліва ў дачыненьні ўсходня-эўрапэйскіх краінаў. Аднак гэта ня значыць, што другая група выступае за незалежнасьць гэтых краінаў. Розьніца паміж імі толькі ў мэтадах: з аднаго боку, ваенных і паліцыйных, а з другога боку — такіх, дзе пераважаюць матывы палітычныя і эканамічныя. Спроба ўжыць новыя мэтады прывяла да падзеяў ў ПОЛЬШЧЫ, а зварот да старых — да падзеяў у ВУГОРШЧЫНЕ.

Хістаньні, дваістасьць, ідэялягічныя й палітычныя спрэчкі ў прыстасоўваньні абодвух мэтадаў і разам з гэтым ліхаманкавае жаданьне ўтрымацца на сваіх становішчах, — усё гэта сьветчыць аб расколе ў партыйным кіраўніцтве Савецкага Саюзу. Далейшыя зьмены ў гэтым кіраўніцтве вельмі праўдападобныя і яны будуць мець вялікае значэньне як для Савецкага Саюзу, так і для ўсяго сьвету.

Няма сумлеву, што гэты, некамуністычны сьвет, хіба ўпяршыню пасьля захопу ўлады бальшавікамі можа зрабіць непасрэдны й дадатны ўплыў на кірунак гэтых зьменаў. Ня гледзячы на рэпрэсію ў Вугоршчыне, Масква можа толькі запавольніць працэс, які ўжо пачаўся, але ня можа яго спыніць. Ні ў якім выпадку нельга спыніць змаганьня народаў Усходняй Эўропы, іхнае барацьбы за свабоду і нацыянальную незалежнасьць. Падобна да таго, як югаслаўскі камунізм, адлучыўшыся ад Масквы, выклікаў крызіс савецкага імпэрыялізму і стварыў нацыянал-камунізм, таксама й рэвалюцыя ў ВУГОРШЧЫНЕ азначае пачатак канца камунізму наагул.

Як гэта часта здараецца ў часе вялікіх вырашальных гістарычных падзеяў, вугорскія змагары за свабоду, змагаючыся за своё існаваньне і за свой край, магчыма й самі ня ведалі, што гэтым змаганьнем яны пачынаюць новую гістарычную эпоху. Сьвет рэдка бачыў такое адзінства народных масаў і такі гэраізм. Гэраізм гэтага народу быў такім вялікім, што ня ўзброеныя хлапцы й дзяўчаты амаль што голымі рукамі затрымлівалі інтэрвэнтаў, узброеных артылерыяй і танкамі, якія як і казакі Мікалая І-га ў 1848 годзе, намагаліся зьнішчыць іхнюю свабоду і паняволіць іхнюю бацькаўшчыну.

Вельмі магчыма, што такія падзеі не паўторацца. Аднак выбух вугорскай рэвалюцыі расчысьціў шлях, па якім раней ці пазьней павінны будуць ісьці іншыя камуністычныя краіны. Рана спрычыненая камунізму вугорскай рэвалюцыяй ніколі не зажыве. Сусьветны камунізм чакаюць бурчыя дні, яго чакаюць непераадольныя цяжкасьці, а народаў Усходняй Эўропы чакае новае гістарычнае змаганьне за сваю свабоду й незалежнасьць.

**Мілёван Джыляс**

## «Наша справа - справа праўдзівая...»

**(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)**

цыянальнае сьвятыні, на аўтары якое наш народ стагодзьдзямі складае свае ахвяры? Хто з нас прамінуў нагоду, каб не паклікаць мінулага ў сьветкі і ў дапамогу? Колькі раз геройскі чын случчакоў зь мінулага сягаў у нашыя дні моцай свае велічы!

Аднак нельга браць пазык цярпеньня й геройства ў мінулым і ня сплачваць іх будучыні. Права быць вольным выкупліваецца дарагой цаной. Але сума можа быць выплачана. На яе складаецца ўсё: і верш Паўлюка Бахрыма, і «Мужыцкая Праўда» Каліноўскага, і Луцкевічавы сухоты і геройства слуцкіх змагароў. Нішто ня гіне ў сплачваньні цаны за волю й незалежнасьць. Трэба толькі бачыць тую неразрыўную прычыннасьць і ўзаемную сувязь таго, што здарылася, з тым, што адбываецца, каб бачыць ды разумець і сэнс кажнага высілку, кажнае ахвяры, кажнае кроплі крыві ня толькі тых, каго мы ўшаноўваем, але й нас саміх.

**Я. Запруднік**

## Мільянэркі

31 кастрычніка, якраз незадоўга перад крыклівым сьвяткаваньнем 39-х угодкаў «мірнае стваральнае працы», менскае радыё ў сваіх «апошніх паведамленьнях» урачыста передало наступную вестку: «Бойка йдзе гандаль у магазынах Падлескага сельпо Ляхавіцкага раёну. Даяркі Валентына Ланкар, Ванда Дамашэвіч і Валентына Васіч набылі сабе... адрэзы на сукенкі... У Падлескім сельсавеце ўсе калгасы мільянэры...»

Беларускае сталічнае радыё хацела сказаць гэтым: Во як квітнее Беларусь, дзякуючы вялікадушнай дапамозе партыі й «вялікага рускага народу»! Ня то што жонкі партыйцаў, але й калгасныя даяркі набываюць сабе адрэзы на сукенкі!..

Калі-б дзень і ноч сядзеў пры радыяапараце (не пры савецкай радыякропцы!) і пераслухаў усе «апошнія паведамленьні» ўсіх радыястанцыяў сьвету, — нідзе не пачуў-бы такога абсурду.

Пэўна-ж, для даярак Ляхавіцкага раёну — гэта не абсурд купіць сабе сукенку, — гэта вельмі шмат у краі бальшавіцкага сацыялізму й партыйных клопатаў. І нас зусім ня зьдзівіць шчырая радасьць Валентыны ці Ванды, радасьць кажнае савецкае дзяўчыны, калі ёй нейкім чынам пашанцуе ўзбагаціць сваю сьціплую гардэробу паркалёвай сукенкай.

Але з гэтае нагоды варта было-б папытацца ў найхітрэйшага бальшавіцкага агітатара: што-ж тады за штука гэныя раструбленыя й расхваленыя калгасы-мільянэры — вяршыня савецкага калгаснага ладу — калі купля даяркай сукенкі зьяўляецца падзеяй рэспубліканскага маштабу?

Як бачым, даганяць і пераганяць Амэрыку пры дапамозе голае «мільянэрскае» тэрміналёгіі — справа карыкатурная й сьмешная...

Быць мільянэрам на савецкі манер — штосьці зусім іншае. Бальшавіцкія мільёны, пераведзеныя ў жыцьцё калгасьніцы — гэта пакуль што голы адрэз на сукенку — падзея, пра якую дыктар менскага радыя абвяшчае цэламу сьвету...

У словах гэтага дыктара — ня толькі маленькая радасьць беларускае дзяўчыны, з нагоды прыдбаньня кавалка матарыялу на вопратку, але й тая вялізманая хлусьня камуністычнае прапаганды пра заможнае жыцьцё нашага народу...

**Янка З.**

# За мінулы тыдзень

(пс) І вось, як кажа прыказка, «сярод добрых прыяцеляў сабакі зайца зьелі».

Пад бурны акампаньямэнт абурэньня грамадзтва ўсіх вольных краінаў і ціхае спачуваньне палітыкаў у палацы Задзіночаных Нацыяў, Масква задушыла вугорскую рэвалюцыю. Цяпер, паводля выпрактыкаваных мэтадаў, і шматгадовае рутыны, яна вешае, страляе і дэпартуе вугорскае насельніцтва. Адным словам — людабойства безь перашкодаў, хоць у міжнародных канвэнцыях ёсьць адмысловая пастанова, што датычыць генацыду. Дыпляматы з Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў вельмі-ж хутка ўвіхаліся з суэскай авантурай і маланкавым тэмпам зарганізавалі першыя адзінкі г. зв. «міжнароднае паліцыі» ды паслалі іх у Эгіпт. Праўда, гэтая вельмі арыгінальная інстытуцыя яшчэ ня мае свайго статуту; ня вельмі ведама, што яна мае рабіць, каго ці што ды перад кім ахоўваць, дзе будзе разьмешчаная і г. д. Заходнія дзяржавы хацелі-б, каб гэтая паліцыя ахоўвала прынцып інтэрнацыяналізацыі Суэскага каналу. Насэр хоча, каб яна бараніла яго ад Ізраэлю. У дадатак, Насэр ня двузначна заяўляе, што ён у кажную хвіліну мае права выгнаць гэтую паліцыю з свае тэрыторыі.

Аднак, Арганізацыя Задзіночаных Нацыяў не здабылася на зарганізаваньне хоць такой паліцыі для Вугоршчыны. Як ні сумна, нельга ня сьцьвердзіць, што й бяз гэтага слабы аўтарытэт АЗН яшчэ больш пахіснуўся.

Хоць Масква сілай 20-ёх азброеных да зубоў дывізіяў, здушыла вугорскую рэвалюцыю, усё-ж вайны з вугорскім народам яна ня выйграла.

Паперршае, азброеныя бутэлькамі з бэнзынай вугорскія падлёткі прывіталі савецкую «гераічную» армію такім пякельным кактэйлам, што, як і ў выпадку слаўнага супраціву Фінляндыі, разьбіла міт неперамажнасьці чырвонае арміі.

Падругое, Вугоршчына была пабітая, але не пераможаная, бо хоць няроўныя баі спыніліся, ня спыніўся супраціў вугорскага народу, і назначаныя Масквой марыянэткі ня могуць навет з дапамогай савецкіх танкаў наладзіць парадку ў краі і спыніць партызанцкі рух, забастоўкі, дэманстрацыі ды поўны байкот ураду.

Патрэйцяе, брутальная інтэрвэнцыя ў Вугоршчыне моцна разьбіла пятую калёну Масквы ўва ўсім сьвеце. Навет бальшавіцкая агрэсія ў 1939 годзе ня выклікала такіх замяшаньняў сярод камуністычных партыяў і іхных спадарожнікаў у некамуністычным сьвеце. Гэта ўжо больш, чымся здэмаляваньне камуністычных памешканьняў і кастрычніцкіх баляў — гэта зьнявер, рашчараваньне й пазнаньне праўдзівага аблічча камунізму абдуранымі прапагандай лёгкавернымі камуністымі у дэмакратычным сьвеце. Гэта вялізарная прайграная Масквы.

Не далей, як месяц таму, Хрушчоў, прыляцеўшы ў Варшаву з намерам войстра расправіцца з гэрэзіяй польскіх камуністых, дэманстрацыйна не падаў рукі Гамулку, называючы яго «зраднікам работніцкае клясы». Сяньня мы чытаем у «Праўдзе», што 15 лістапада на Беларускім Вагзале ў Маскве Хрушчоў «доўга й горача» пацікаў руку Гамулкі. Якая вялікая перамена!

Маскоўскія калектыўныя царкі маюць не благое вычуцьцё рэальнасьці і адчуваюць, што папруга іхнага сядла моцна паслабілася, у выніку чаго яны могуць накрыцца нагамі, што было-б вельмі магчымым, каб Захад ім у гэтым дапамог. Толькі бяда ў тым, што палітыкі Захаду маюць без параўнаньня менш вычуцьця рэальнасьці, чымся крамлёўскія сатрапы.

Апошнім здарэньнем была заява савецкага ўраду адносна раззбраеньня. Гэтая заява выразна разьлічаная на тое, каб адвярнуць увагу вольнага сьвету ад савецкіх злачынстваў у Вугоршчыне ды ад крызісу, які вытварыўся ў камуністычным блёку. Таму слушна піша «Нью Ёрк Таймс»: «Было-б зусім зразумелым, калі-б Задзіночаныя Штаты адказалі на новыя савецкія прапановы войстрым і станоўчым «не!». Гэтыя-ж прапановы выходзяць ад ураду, які толькі што ўжываў найбольш страхотную ілжу і зраду, каб утапіць у крыві вугорскую рэвалюцыю».

Гэтак, і толькі гэтак павінны быць разгляданыя ўсе крокі савецкае дыпляматыі. Але ці заходняя дыпляматыя здабудзецца на гэта ды дапаможа Хрушчову й супалцы выляцець зь сядла? Гэтага мы ім жадаем.

# 50-ая гадавіна «Нашай Нівы» й нашаніўства

Роўна пяцьдзесят год таму назад, 23 (паводля старога стылю 10) лістапада 1906 году выйшаў у Вільні першы нумар беларускай тыднёвай газэты «Наша Ніва», якая бесьперапынна выходзіала бяз мала да канца 1915 году й стварыла сабой цэлую эпоху ў беларускім нацыянальным адраджэньні, званую агульна нашаніўскай.

«Наша Ніва» ня была першай легальнай беларускай газэтай Яе папярэдзіла «Наша Доля», першы нумар якой выйшаў у той-жа Вільні 14 верасьня 1906 году. Але на ўсіх 6 нумароў «Нашай Долі» аж 5 было сканфіскаваных расейскай паліцыяй, і таму выдаўцы газэты пастанавілі яе спыніць, каб, пачаўшы выдаваць газэту пад іншым назовам ды надаючы ёй больш памяркоўны тон, забясьпечыць далейшае яе існаваньне. Выхад у сьвет «Нашай Долі» й «Нашай Нівы», як першых легальных беларускіх друкаваных ворганаў, быў вынікам адкліканьня царскім урадам у 1905 годзе забароны беларускага друку, якая трывала ад 1867 году.

«Наша Ніва», падобна як і яе папярэдніца «Наша Доля», ад самага пачатку друкавалася двума шрыфтамі: кірыліцай і лацінкай. Але з прычыны вялікіх коштаў падвойнага выданьня, з 1912 году, пасьля агульнага апытаньня чытачоў, яна перайшла на адзін кірылічны шрыфт.

Гістарычная роля й значэньне «Нашае Нівы» й цэлай нашаніўскай пары выступаюць у двух галоўных аспэктах: нацыянальна-палітычным і літаратурным. Абодвы гэтыя мамэнты ня былі асобнымі й незалежнымі ад сябе плынямі, але ўзаемна сябе дапаўнялі й фармавалі такім чынам цэласьць беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху. Справа ў тым, што беларуская літаратура гэтае пары разглядалася ейнымі стваральнікамі і ўспрыймалася чытачамі ня толькі як мастацкі фактар і паказьнік культурнага разьвіцьця нацыі, але адначасна й як найвайстрэйшая ў дадзены мамэнт зброя ў змаганьні за нацыянальнае, сацыяльнае і навет палітычнае адраджэньне беларускага народу. Таму ўся нацыянальна-сацыяльна-палітычная праграма «Нашай Нівы», як газэты, выказваная ў ейных перадавіцах і наагул публіцыстычных артыкулах, у ня меншай меры канкрэтызавалася і ў літаратурных творах нашаніўскіх паэтаў, як галоўныя ідэі гэтых твораў. Каб агульна пазнаць ідэялягічную накіраванасьць нашаніўскае мастацкае літаратуры, даволі прасачыць публіцыстычныя артыкулы «Нашай Нівы» і, наадварот, каб мець уяўленьне аб палітычных тэндэнцыях нашаніўскае пары, даволі пазнаёміцца зь літаратурнымі творамі нашаніўскіх паэтаў і пісьменьнікаў.

Палітычная праграмнасьць «Нашай Долі» і «Нашай Нівы» выводзіцца ў простай лініі з палітычнай праграмнасьці закладзенай у 1902 годзе Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады і перайменаванай у наступным 1903 годзе ў Беларускую Сацыялістычную Грамаду. Праграма гэтай важнай беларускай палітычнай арганізацыі была ў васнаўным сацыял-дэмакратычная меншавіцкага, а не бальшавіцкага кірунку, прытарнаваная да мясцовых беларускіх патрэбаў. Ды, напасьледак і галоўныя лідэры Беларускай Сацыялістычнай Грамады, у першую чаргу Іван Луцкевіч, а так-жа ягоны брат Антон былі галоўнымі выдаўцамі, кіраўнікамі й ідэялёгамі «Нашае Нівы».

«Наша Доля» ды і «Наша Ніва» ў першыя гады свайго існаваньня, будучы сугучнай галоўным палітычным тэндэнцыям гэных гадоў, давала перавагу праблемам сацыяльным, хоць і не занядбоўвала пытаньняў нацыянальнага адраджэньня. Гэтак ужо ў перадавіцы першага нумару «Нашай Нівы» за 1906 год выразна гаварылася: «Мы будзем старацца, каб усе Беларусы, што ня ведаюць, хто яны ёсьць, — зразумелі, што яны Беларусы й людзі, каб пазналі свае правы і памагалі нам у нашай рабоце». Хаця прыблізна толькі з 1910 году «Наша Ніва» дае ўсеўладную перавагу праблемам нацыянальнага адраджэньня, але ўжо ў прыведзеных словах перадавіцы яе першага нумару сфармуляваліся асноўныя лініі і яе нацыянальнай праграмы: нацыянальнае ўсьведамленьне беларускага народу, «каб усе Беалрусы... зразумелі, што яны **Беларусы**», і змаганьне за прывярненьне ім людзкай годнасьці — каб зразумелі, што яны **«людзі**, каб пазналі свае правы». Вось-жа гэтыя два лёзунгі — нацыянальнае ўсьведамленьне беларускага народу і адваяваньне яму людзкай годнасьці і годнасьці поўнавартаснай нацыі, і сталіся галоўнай ідэялягічнай асновай усяго нашаніўскага адраджэнства: мастацкай літаратуры і нацыянальна-палітычнага руху нашаніўскае пары.

Усе-ж іншыя ідэялягічныя кірункі нашаніўства выплывалі з гэтых двух аснаўных мамэнтаў і былі толькі іхным далейшым разьвіцьцём або дапаўненьнем. Зь іх варта адцеміць наступныя, як найбольш характэрныя і істотныя для «Нашай Нівы» й нашаніўства.

Перш зе ўсё мамэнт сацыяльны. Выступіўшы ў «Нашай Долі» і спачатку ў «Нашай Ніве», як галоўная і самастойная праблема, з часам становіцца неадлучнай арганічнай часткай шырокай нацыянальнай праблемы. Гэтае пытаньне фармулявалася так, што сацыяльная няволя беларускага народу ёсьць адначасна нацыянальнай няволяй, бо эксплёатуе яго ня Беларус, але нацыянальна яму чужы польскі пан, або расейскі чыноўнік і памешчык. Як адзін, гэтак і другі імкнуцца ня толькі трымаць беларускія сялянскія масы ў сацыяльнай залежнасьці, але ў роўнай меры і ў няволі нацыянальнай, стараючыся іх спалянізаваць або зрусыфікаваць.

З такога ўкладу нацыянальных і сацыяльных узаемадачыненьняў у Беларусі выводзіцца і папулярная тэорыя аб бясклясавасьці беларускага народу ды адсутнасьці ў ім клясавай варожасьці й клясавага змаганьня. Гэтая тэорыя, зарадзіўшыся ў раньнія нашаніўскія часы й знайшоўшы шырокае адлюстраваньне ў нашаніўскай літаратуры, станецца потым аднэй з галоўных ідэялягічных асноваў ня толькі беларускага руху нашаніўскага пэрыяду, але й беларускіх нацыянал-камуністых у БССР у дваццатыя гады. І яны, галоўна іхны лідэр праф. У. Ігнатоўскі, разглядалі, што эксплёататарскія слаі ў Беларусі — буйныя зямельныя собсьнікі, хвабрыканты, купцы і г. д., былі або людзьмі чужога нацыянальнага паходжаньня, як Расейцы, Палякі, Жыды, або спалянізаванымі й зрусыфікаванымі Беларусамі. Як адныя, гэтак і другія да беларускай нацыі не належалі, якую тварыла галоўным чынам эксплёатаванае імі сацыяльна і ўцісканае нацыянальна сялянства.

Ставячы ў цэнтр сваей увагі шырокае нацыянальнае ўсьведамленьне беларускага народу, нашаніўцы прыпісвалі асабліва вялікае значэньне да захаваньня роднае беларускае мовы і ўзбуджэньня пашаны да яе. Гэты мамэнт, сфармуляваны яшчэ ў слаўным Багушэвічавым лёзунгу: **«Беларусы, не пакідайце мовы вашай беларускай, каб ня ўмерлі!»**, падхапілі й разьвівалі далей усе нашаніўцы. **Спасярод іх Янка Купала ў цэ**лым радзе найлепшых сваіх твораў найярчэй паказаў вялізарную ролю роднае мовы ў працэсе нацыянальнага адраджэньня.

Побач з гэтым, нашаніўскае адраджэнства старалася аднаўляць у памяці народу ягоную слаўную гістарычную мінуўшчыню, цяпер народам забытую або прысабечаную чужынцамі. Выклікаючы ў народнай сьведамасьці мінулыя вякі магутнасьці й славы беларускага народу, нашаніўцы хацелі гэтым узварухнуць ягоным нацыянальным сумленьнем і пераканаць, што і «просты», «мужыцкі» беларускі народ здольны да творчага й поўнавартаснага нацыянальнага жыцьця. Гэты зварот да гістарычнай мінуўшчыні, як шчасьлівае й слаўнае эпохі незалежнага дзяржаўнага жыцьця беларускага народу, мы знаходзім балай што ўва ўсіх нашаніўскіх паэтаў. Але ўва ўсёй сваёй поўніні ён праявіўся ў творчасьці ўзноў-жа таго-ж Купалы.

Гэтак беларуская літаратура нашаніўскага адраджэнства, як і сама «Наша Ніва», была наскрозь нацыянальнай і глыбака патрыятычнай. І ў гэтым ейнае найвялікшае значэньне. Гэта сталася галоўнай прычынай, што «Наша Ніва» знайшла шырокі водклік сярод беларускіх народных масаў. Беларускі адраджэнскі рух, будучы перад гэтым рухам толькі адзінак, нацыянальна сьведамае інтэлігенцыі, становіцца цяпер рухам масавым, агульнанародным. Ужо за першыя тры гады існаваньня «Нашай Нівы» у ёй было надрукавана 960 арыгінальных карэспандэнцыяў з 489 вёсак і мястэчак, а за чацьверты год — 600 карэспандэнцыяў з 321 мясцовасьцяў.

Разам з гэтым, «Наша Ніва», як ужо ўспаміналася, узбудзіла магутны літаратурны рух. Яна сталася цэнтрам усіх бяз выключэньня беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, якія дэбютавалі на яе бачынах і друкавалі ў ёй свае найлепшыя творы. Апрача г. зв. старэйшых нашаніўцаў, як Цётка, Ядвігін Ш., Карусь Каганец і іншыя, што пачалі пісаць яшчэ да «Нашай Нівы», на «Нашай Ніве» ўзгадаваліся й запладняліся яе ідэямі ўсе беларускія паэты й пісьменьнікі дадзенае пары. Спасярод іх згулялі найвялікшую ролю ў нашай адраджэнскай літаратуры такія ейныя вядучыя й рэпрэзэнтатыўныя прадстаўнікі, як Янка Купала й Якуб Колас, трохі пазьней Максім Багдановіч, Зьмітрок Бядуля, Алесь Гарун, Цішка Гартны, Канстанцыя Буйла, а яшчэ пазьней Власт (Вацлаў Ластоўскі), Максім Гарэцкі і Францішак Аляхновіч. Але душой «Нашай Нівы» і ўсяго нашаніўства быў перадусім Янка Купала, які ў 1908-1909 гг. працаваў у самой рэдакцыі «Нашай Нівы», ад 1914 да 1915 году займаў становішча ейнага рэдактара.

Выхад «Нашай Нівы» спыніўся ўвосень 1915 году, калі нямецкая армія акупавала Вільню падчас Першае Сьветавае вайны. Але нашаніўская пара ў нашай літаратуры працягваецца далей. Яе завяршальнымі пунктамі трэба лічыць 1923 год. калі выйшла ў сьвет «Новая Зямля» Якуба Коласа; 1925 год у якім паяўляецца ягоны «Сымон Музыка». Абодвы гэтыя манумэнтальныя творы нашай літаратуры, распачатыя аўтарам яшчэ ў 1911 годзе і ў значнай меры ў часе паяўляньня «Нашай Нівы» напісаныя, галоўнымі літаратурнымі асаблівасьцямі і ідэйнай накіраванасьцю арганічна зьвязаныя з нашаніўствам. І толькі ў 1926 годзе на зьмену нашаніўства прыходзіць новая слаўная пара ў разьвіцьці нашай літаратуры, пара ўзвышэнства, бязьлітасна спыненая расейскім бальшавізмам у 1931 годзе, калі было разьвязанае літаратурнае згуртаваньне «Узвышша» й закрыты ягоны месячны ворган пад гэтым-жа назовам.

Савецкая гісторыяграфія й літаратурная крытыка апошніх часоў закляймавала «Нашу Ніву» й нашаніўства, як рэакцыйны й антынародны буржуазна-нацыяналістычны кірунак. Каб апраўдаць беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, творы якіх, хоць і ў схвальшаванай форме, дапушчаныя сяньня бальшавікамі, за іхнае супрацоўніцтва ў гэтым воргане «беларускіх буржуазных нацыяналістых», выдадзеная ў 1954 годзе «История Белорусской ССР» піша:

«Наша Ніва» была адзінай газэтай, што выдавалася ў беларускай мове. Дзеля гэтага Цётка, Багдановіч, Бядуля, Купала, Колас і іншыя дэмакратычныя пісьменьнікі змушаныя былі друкаваць у ёй некаторыя свае мастацкія творы. Аднак гэта не мяняла буржуазна-нацыяналістычнага кірунку «Нашай Нівы».

Менскі тыднёвік «Літаратура і Мастацтва», у нумары 38 за 15 верасьня 1956 году, адзначаючы пяцьдзесятую гадавіну творчасьці Якуба Коласа, зьмясьціў артыкул Н. Перхіна пад загалоўкам «Наша Доля» ў сувязі з тым, што ў першым нумары «Нашай Долі» у 1906 годзе быў надрукаваны першы верш Якуба Коласа «Наш родны край». Адцеміўшы прагрэсыўны характар «Нашай Долі», якая «з нумару ў нумар распальвала полымя на-

(Заканчэньне на 7-ай бачыне)

# Думкі савецкага мастака

У нашай сацыялістычнай краіне ня лёгка маляваць пэйзажы. Камуністычная партыя і ў гэтым жанры вымагае ад мастака клясавага падыходу, яскравага паказу гэтак званага сацрэалізму.

Ну, а скажэце! Што можа даць беларускі краявід — поле, бярозкі, ручай? Як тут абгрунтаваць палітычна? Хіба што белыя бярозкі намаляваць чырвонымі? А папрабуйце гэта зрабіць, і вас абвінавацяць у фармалістычным ухіле, абзавуць буржуазным мастаком, або ў лепшым выпадку прыпішуць хваробу — дальтанізм.

Мой сябра намаляваў прыгожы пэйзаж: заход сонца, жытнёвае поле й паўз жыта — дарога з каляінай.

Здавалася-б, якога тут шукаць ідэялягічнага зьместу? А вось адзін прыяцель крытык напісаў у газэту рэцэнзію.

— У гэтым абразку, — зазначыў ён, — паказана ўраджайнае калгаснае поле. Дарога з глыбокай каляінай сымбалізуе наш шлях да сацыялізму. А падламаны колас, які асьветлены апошнімі праменьнямі сонца, гаворыць аб тым, што толькі ў калектыве сіла, а не ў ваднаасобнай гаспадарцы.

Гэтак моцненька выхваліў, гэтак падвёў пад усю творчасьць ідэялягічную базу, што нават працу майго сябры ў Маскву павезьлі.

Цешыўся мой сябра і ўжо на сталінскую прэмію спадзяваўся. Ажно раптам няшчасьце пяруном ляснула.

Нейкі пісака пачаў інакш ацэньваць ягоны мастацкі твор. Ён напісаў у газэце: «Варожыя тэндэнцыі прасоўвае мастак у гэтым пэйзажы. Заход сонца на калгасным полі можна тлумачыць, як нейкае адміраньне, надыход змроку ў новай сыстэме сельскай гаспадаркі. Зламаны колас і заежджаная дарога — гэта паклёп на калгас. Мастак прасякнуты буржуазнай ідэялёгіяй, стараецца паказаць у дэталях, што сяляне не шануюць калгаснага поля». І гэтак далей, і гэтак далей. Чаго толькі не наплёў у сваёй злоснай крытыцы! І што вы думаеце? Не абыйшлося спакойна. Пачалі мастака цягаць у вадпаведныя ворганы. Тыцкалі яму пад нос апошнюю рэцэнзію, лаялі яго, пагражалі. А пазьней, нарэшце, прыйшлі ўночы й арыштавалі яго. І зьнік мой сябра.

Пасьля гэтага выпадку я кінуў маляваць пэйзажы. Бяды не абярэшся! Лепш, думаю, партрэты правадыроў маляваць.

Але і ў гэтым, мае паважаныя, таксама трэба быць асьцярожным. Сяньня той ці іншы пры ўладзе, правадыр пралетарыяту, а заўтра, глядзіш, ужо вораг народу. Малявалі, скажам, партрэты Бэрыі. А цяпер от і выстаўляць на паказ ня можна. Ён, кажуць, расстраляны, як агент буржуазнага капіталу. Тое самае няпэўна і зь іншымі.

Некаторыя хітрэйшыя мастакі ўзяліся за постаць Сталіна. Гэты-ж правадыр не падвядзе, ён непамыльны, надзейны. Яго малявалі ў розных позах. Ажно бачым, і ён на хісткім п'едэстале.

Дык вось цяпер мастакі пераходзяць ізноў да старога лысага. Аднак я, асабіста, і на Леніна гляджу зь недаверам. Усяк можа здарыцца. Намалюеш яго, а потым адна толькі няпрыемнасьць будзе.

Можа лепш натурморты маляваць. Тут ужо ня прычэпяцца.

**К. Рамановіч**

**Юрка Віцьбіч**

5)

# «Кепска каля Віцебска, а ля Воршы 'шчэ горшы»

Гэты касьцёл, як і шмат іншых касьцёлаў на Беларусі, быў высьвячаны ў імя сьвятога Антона Падуанскага, сучасьніка Францішка Асіскага і аднаго зь першых францішканаў. Мы ня ведаем, пад якім прозьвішчам нарадзіўся ён у 1195 г. у ваднэй з найбагацейшых сем'яў Лісабоны. Затое ведаем, што, атрымаўшы найлепшую для таго часу асьвету, ён адмовіўся і ад пасадаў, здабытых гэтай асьветай, і ад багацьцяў, якія даталіся яму ў спадчыну, і ад невядомага нам прозьвішча, каб стацца манахам. Аднак, калі пераважная бальшыня манахаў адыходзіла на самату ў манастырскія кельлі, дык Антон Падуанскі пайшоў да самых людзкіх гушчаў. Высокі і худы асцэт, у старой латанай выцьвілай ад сонца і дажджоў сутане, у кішэнях якое знаходзілася ўся ягоная маёмасьць, падпярэзаны не сымбалічнай з кутасамі, а звычайнай вяроўкай, навет узімку босы і зь непакрытай галавой, ён, як вандроўны казальнік ішоў ад вёскі да вёскі, ад гораду да гораду праз Партугалію, Гішпанію, Францыю, Італію. Ягоны вонкавы выгляд, да якога яшчэ трэба дадаць упалыя вочы, у якіх заўсёды сьвяціўся агонь не зямнога натхненьня і глыбокае веры, ягоныя палкія і красамоўныя казаньні, у якіх набытае схалястычнай тады асьветай выкладалася для ўсіх зразумелай мовай, спакідалі на простых людзей вялікае ўражаньне. Яго часам суправаджалі натоўпы, а часам пільнавалі ворагі — пераважна іншыя да яго непадобныя манахі, каб забіць. Запальваючы вакольных і згараючы пры гэтым сам, ён памёр у 1231 г. не старым, трыццацішасьцёхгадовым, у Падуі. Характэрна, што наўсуперак звычаю каталіцкая царква ўжо ў наступным 1232 г. абвесьціла яго сьвятым, надаючы да яго імя назоў гораду Падуі, дзе скончылася ягоная місыйная вандроўка па зямлі. Тае самае італійскае Падуі, што шмат гаворыць беларускаму сэрцу. Гэта-ж у ейным унівэрсытэце здабываў асьвету «сын Лукаша з Полацку», вялікі Беларус, наш першадрукар доктар Францішак Скарына.

Праз праломленую ў бакавой сьцяне браму мы моўчкі праходзім у паруганы Дом Божы. Аднак прычым тут брама, пры ўспаміне аб якой заўсёды прыгадваецца ў нас Войстрая Брама з абразом Найсьвятое Дзевы і з магутнымі коньнікамі па бакох яго. Гэта звычайныя вароты для праезду аўтобусаў Белдзяржтрансу. Абшарпаныя, латаныя ды пералатаныя яны займаюць усю плошчу будынку, дзе мы дарма шукаем якога небудзь сьледу ягонага ранейшага прызначэньня. І нечакана я ўздрыгнуў. У вузкім праходзе паміж аўтобусамі на падлозе я заўважыў частку мазаічнага надпісу. Адштурхнуўшы ў бок аўтобус і вызваліўшы з-пад ягоных колаў надпіс, мы прачыталі:

Salve!

— а пад ім меўся паміж першай і апошняй літарамі старагрэцкага альфабэту, паміж Альфай і Омегай-Лябарум-Крыж Канстанціна Вялікага.

Salve!

— або ў перакладзе з латыні —

Дабрыдзень!

Далёкая мінуўшчына сардэчна вітала нас. Хто-б ты ня быў — кароль, ці жабрак, праваслаўны ці каталік, дзед ці дзіцця.

Salve!

І прыгадалася мне з натхнёнага агняпісу-Апокаліпсіса:

«Я ёсьць Альфа і Омега, пачатак і канец, кажа
Госпад, які ёсьць, і быў і прыйдзе, Уседзяржыцель.»

А пасярэдзіне-Лябарум, што меўся на сьцягах рымскіх легіёнаў, крыж магутнага імпэратара Рыма і закладніка Канстанцінопаля, з якога асьвяціла Беларусь Сьвятло Хрыстовае. Па свайму, па праваслаўнаму, я ў душы пабожна перахрысьціўся і з болям спакінуў святыню.

— Вы хлусіце — скажа мне той ці іншы прыхільнік «Русскога Голоса», паміж якімі ёсьць ладне зусім не благіх, але спадманутых савецкай прапагандай Беларусаў з старое эміграцыі. — З таго часу, як вы бачылі Воршу мінула 17 год. Нянавісьць палітычнага эмігранта асьляпіла вашыя вочы. Вы адарваныя ад штодзённага сучаснага жыцьця, ад цяпершчыны свайго народу і краіны. Вы таму зусім не ўяўляеце сабе сучаснае Воршы».

Аднак я ня думаю, каб тая сьвятая нянавісьць ды мяне асьляпіла. Мне запраўды не давялося, аб чым ні на каліва не шкадую, бачыць у Воршы помнік работы скульптара Бэмбаля герою Савецкага Саюза Канстанціну Заслонаву, імя якога накінута і старому чыгуначнаму дэпо і яшчэ больш старой вуліцы. Яму-ж у дадатак паблізу ад вагзалу прысьвечаны адмысловы музэй. Мастакі Зайцаў, Волкаў, Хрусталёў, Раманаў больш ці менш патэтычна адбілі яго ў сваіх малюнках. Кампазытар Аладаў стварыў опэру «Андрэй Касьценя», якога першаузорам зьяўляецца тэй-жа Заслонаў. Драматург Маўзон напісаў аб ім п'есу, якую на сцэне паставіў Саньнікаў, а ролю Заслонава выканаў Платонаў. Дарэчы зьвярніце ўвагу на прозьвішчы і гэроя і ягоных трубадураў. Урэшце-рэштаў не амінула Заслонава і Белдзяржкіно, сфабрыкаваўшы аб ім фільм. Інжынэр чыгуначнага дэпо станцыі Ворша камуністы Заслонаў стаўся пасьмяротна гэроям Савецкага Саюза таму, што ў часе вайны ачольваў змаганьне тутэйшых партызанаў зь Немцамі, а ў сувязі з гэтым рэклямуецца там, як — «запраўдны сын беларускага народу». Між тым у часе вайны запраўдныя сыны беларускага народу рыхтаваліся да таго моманту, каті фашызм і бальшавізм перагрызуць адзін аднаму глоткі, каб пасьля гэтага зь вінтоўкамі ў руках і з дапамогай дэмакратычнага сьвету аднавіць Незалежную Беларусь. Таму з нашага незалежніцкага пункту гледжаньня хай сабе й Беларус па свайму паходжаньню, але фашыстоўскі калябарант Фабіян Акінчыц гэткі-ж вораг нашае Нацыянальнае Ідэі, як і бальшавіцкі калябарант Канстанцін Заслонаў. І можа ніхто лепш не ахарактэрызаваў Заслонава, як Маўзон, у п'есе якога той кажа:

— Мы — расейскія людзі. Нашая матка- — Масква.

Мы даём веру таму, што ў сучаснай Воршы адноўлены элеватар і льнокамбінат, пабудаваны варштатны завод «Красный Борец» і завод кравецкіх машынаў. Аднак з таго-ж самага «Русскога Голоса» (20. 12. 51 г.) мы ведаем, што Варшанскі завод «Красный Борец» да тэрміну адправіў вяртікальна-сьвідравальныя варштаты Сталінградзкай і Куйбышэўскай ГЭС, Волга-Данскому каналу і ў Кахоўку. Чаму ня ў Полацк, або ў Слонім? Мы таксама даём веру таму, што ў сучаснай Воршы пабудаваныя, або будуюцца цагляны камбінат, птушкакамбінат, мясакансэрвны камбінат, лазьняпральны камбінат і розныя новыя прадпрыемствы «гарадзкога прамысловага камбіната». Што датычыць беларускіх лазьняў, дык яны прыгадваюцца яшчэ ў апокрыфах, у сувязі з падарожжам сьвятога Апостала Андрэя Першымпакліканага. Што датычыць птушкакамбінату, дык калі гаспадару аднае зь нязлічо-

# Супраць савецкага імпэрыялізму й паняволеньня Вугоршчыны

## Мітынг Парыскага Блёку ў Нью Ёрку

Кантактнай Камісіяй Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскі Блёк) у ЗША быў ладжаны 11 лістапада ў гатэлі «Коммодор» вялікі сход пад лёзунгам «Вызваленьне першых ахвяр савецка-камуністычнай агрэсіі».

Вялікая заля была перапоўненая грамадзянамі народаў, якія ўходзяць у Лігу Вызваленьня Народаў СССР. На першых месцах сядзелі Япіскапы Беларускай і Украінскай Аўтакефальных Праваслаўных, Амэрыканскіх ды другіх Цэркваў, прадстаўнікі розных арганізацыяў і Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму. Старшыня сходу сп. В. К. Бабаян адкрыў мітынг, запрашаючы гасьцей і прадстаўнікоў заняць месца ў прэзыдуюме.

Пасьля адсьпяваньня амэрыканскага гімну старшыня сходу прадставіў прысутным сп. Прззыдэнта М. Абрамчыка, старшыню Лігі Вызваленьня Народаў СССР («Парыскі Блёк») і прадстаўнікоў ад Армэніі сп. А. Клёмбэргеані, Айзэрбайджану сп. С. Сэльцука, Беларусі сп. К. Мерляка, Казакоў сп. Ераменку, Грузінаў др. Г. Кобахідзэ, Ідэль-Уралу др. Г. Рашыда, Туркестану др. А. Бэрдзімурата і Украіны праф. І. Паліводу.

Сп. Бабыян у сваей уступнай прамове прадставіў прысутным працу, дзейнасьць і значэньне Парыскага Блёку ў змаганьні з камуністычнай агрэсіяй ды пазнаёміў зь ягонымі заданьнямі на будучыню.

Наступна выступіў судзьдзя Робэрт Моррыс, шэф дараднік Сэнацкай Камісіі Бясьпекі, які ў сваей прамове дамагаўся вызваленьня ўсіх народаў, падчыркваючы, што Задзіночаныя Штаты павінны, перарваць усякія сувязі з Савецкім Саюзам і сатэлітамі, пайменна: культурныя, навуковыя, эканамічныя, а навет дыпляматычныя, калі яны (Саветы) ня выйдуць із Вугоршчыны. Галоўную прамову сказаў сп. Прэзыдэнт М. Абрамчык у беларускай мове, якая была прачытана пазьней у ангельскай, а копіі, раней прыгатаваныя, былі разданыя прысутным Амэрыканцам і журналістым.

Наступным прамоўцам быў кангрэсмэн Альфрэд Сантанджэлё, які выбраны цяперака ў Кангрэс, а раней быў сэнатарам Штату Нью Ёрк. Ягоная прамова была надзвычай жывая і ён запэўніваў, што ўсё будзе рабіць магчымае, каб усе народы былі вызваленыя і каб узятыя на сябе заданьні Задзіночанымі Штатамі Амэрыкі былі поўнасьцю выкананыя.. За ім вітаў прысутных прадстаўнік Амэрыканскіх Вэтэранаў Замежных Войнаў сп. Арманд Ротман. Старшыня сходу прачытаў некалькі із прысланых пісьмовых прывітаньняў, між іншым ад сэнатара Вільяма А. Партэля і Сэнатара Ірвінса М. Айвэса ды ад Цэнтралі Парыскага Блёку із Мюнхэну.

Сакратар Кантактнай Камісіі сп. В. Цаліян прачытаў рэзалюцыю, якая была прынятая аднагалосна і якая будзе выслана Прэзыдэнту ЗША Айзэнгаўэру, Сэнату і Кангрэсу.

Выступленьні прамоўцаў былі пераплеценыя выступамі армянскага тэнара і ведамага беларускага баса П. Конюха пры акампаньямэньце праф. Е. Зубковіч.

Перад заканчэньнем была ўшанаваная адной хвілінай цішыні памяць усіх паleглых у вабароне вольнасьці і незалежнасьці сваіх краінаў.

Мітынг Парыскага Блёку быў удалай імпрэзай і адзначыўся вялікім посьпехам. Назаўтра ньюёрскія газэты памясьцілі справаздачы аб ім.

Увесь прабег мітынгу быў награнны на плёнку радыем «Вызваленьне» для выкарыстаньня ў перадачах у Савецкі Саюз.

## ПРАМОВА

### ПРЭЗЫДЭНТА М. АБРАМЧЫКА, СТАРШЫНІ ЛІГІ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ НАРОДАЎ СССР (ПАРЫСКАГА БЛЁКУ)

11 лістапада — Дзень Замірэньня — радасны дзень для ўсяго вольнага сьвету. У гэтым дні сотні мільёнаў матак занесьлі малітву падзякі да Ўсявышняга, што пагроза сьмерці для іхных сыноў была адхіленая. Няма для людзей большага шчасьця, як у свабодзе й супакоі цешыцца ўсімі зямнымі дабрадзействамі, якімі абдарыла іх Божая Натура.

Дух і сэнс таму гэтага дня — вялікі. Але гэты шчасьлівы дзень, на жаль, не гасьцяваў доўга ў краінах нашых народаў. Неўзабаве месца ягонае заняў крывавы бальшавіцкі «октябрь», які прынёс нам зусім іншы дух, іншае паветра, як дух, як паветра ягонай паўночнай бацькаўшчыны. Чырвоны «Октябрь» — гэта ня толькі сымбаль крыві, гэта — рэальнасьць. Там, дзе ён запануе, там льюцца нясупынныя рэкі крыві.

Сяньня ўвесь вольны сьвет назірае адну з найбольш жудасных драмаў аднае з шматлікіх ахвяраў бальшавіцкага людазабойства па той бок зялезнай заслоны. Але, апрача зялезнай, існуе яшчэ другая заслона — сталёвая. За гэнай заслонай, якая аддзяляе ад вольнага сьвету народы г. зв. Савецкага Саюзу, хаваюцца яшчэ горшыя злачынствы крамлёўскіх забойцаў. Тое, што сяньня пабачыў вольны сьвет за заслонай зялезнай, робіцца і рабілася на працягу 39 год сярод народаў СССР, за заслонаю сталёвай. Бальшавіцкая практыка, праводжаная сярод сатэлітных народаў на працягу 11 апошніх год — ёсьць толькі пачаткам таго, што практыкавалася і практыкуецца бальшавіцкімі тыранамі сярод нашых народаў у СССР.

39 год таму, калі нерасейскія народы, карыстаючы з развалу царскае імпэрыі, абвесьцілі свае незалежныя дэмакратычныя рэспублікі, Крэмль пачаў із імі бязьлітасную вайну, затапляючы іх крывёю. На Беларускую Народную Рэспубліку, ад самых першых дзён ейнага заіснаваньня, былі накіраваныя панцырныя войскі і дзікія чэкістаўскія горды, якія зьнішчылі маладую Беларускую Рэспубліку на працягу 11 месяцаў.

Гэткаму-ж жорсткаму ўдару, амаль аднаčасова зь Беларускай падупалі рэспублікі народаў Ідэль-Уралу й Туркестану, праіснаваўшы вольнымі гэтаксама каля 10-11 месяцаў. У сакавіку 1920 году была зьнішчаная Рэспубліка Паўночна-Каўкаскіх народаў, праіснаваўшы 12 месяцаў. У сакавіку-ж 1920 году зьнішчаная была Азэрбайджанская Рэспубліка, праіснаваўшы гэтаксама 12 месяцаў. У лістападзе 1920 году зваяваная была Армянская Дэмакратычная Рэспубліка, прабыўшы вольнай 19 месяцаў. У лістападзе 1920 году, пасьля двухгадовай вайны, пала Украінская Народная Рэспубліка. А ў лютым 1921 году, на трэйцім годзе свайго існаваньня, была разбураная Грузінская Дэмакратычная Рэспубліка. Дзьве Казацкія Рэспублікі (Дон і Кубань), а таксама й Рэспубліка Крымскіх Татараў падзялілі лёс усіх іншых нерасейскіх народаў былое царскае імпэрыі.

**Але народы нашыя, як і народ вугорскі, не маглі зьмірыцца з накіненымі ім Крамлём паслухмянымі яму марыянэткавымі ўрадамі. Пад лёзунгам рэстаўрацыі сваіх дэмакратычных рэспублік народы нашыя хапіліся за зброю.**

**У студзені 1919 году выбухла ўсенароднае паўстаньне Ідэль-Уралу, вядомае пад назваю паўстаньня Валошнікаў.** Зь віламі й сякерамі змагаліся народы Ідэль-Уралу з бальшавіцкай арміяй на працягу чатырох месяцаў. У лістападзе 1920 году выбухла паўстаньне ў Беларусі, ведамае пад назваю Слуцкага Паўстаньня, якое ператварылася пасьлей у запраўдную франтавую вайну, але якое, гэтаксама як і паўстаньне Ідэль-Уральскіх Валошнікаў, было крывава здушанае. Пры разгроме Украінскае Народнае Рэспублікі ў 1921 годзе, адна з частак Украінскае арміі, называная «Зялезнай Дывізіяй», пайшла на тылы бальшавіцкае арміі і на працягу ўсяе зімы, горача падтрымоўваная ўкраінскім народам, гераічна змагалася з крамлёўскімі наезьнікамі. У сьнежні-студзені 1921 г. выбухла ўсеагульнае паўстаньне ў Армэніі, выкінуўшы на два месяцы бальшавікоў з армянскае тэрыторыі. На працягу 1920 году выбухалі паўстаньні народаў Туркестану. У 1923 і 1925 гадох выбухлі былі два буйныя паўстаньні народаў Паўночнага Каўказу. У 1922 і 1924 гадох — усенародныя паўстаньні ў Грузіі. Паўстаньні ў Азэрбайджане, Казакіі ды Крыме дапоўнілі абраз крывавага спэктаклю бальшавіцкага тэрору.

Звыш 100 мільёнаў нерасейскіх народаў, зь іхнымі багацейшымі тэрыторыямі, былі абернены ў каленіі Крамля. Крамлёўскі каляніялізм адрозьніваецца ад каляніялізму заходняга тым, што ён, апрача эканамічнае эксплятацыі, імкнецца да поўнае духовае і культурнае нівэляцыі нерасейскіх народаў, як гарантыі захаваньня свае імпэрыі на вечныя часы.

Як мэтад да гэтага, Крэмль выбраў найдзічэйшыя формы гэнасыду.

Чэкістыя, энкавудыстыя, эмвэдыстыя нявыноснымі для чалавека фізычнымі катаваньнямі змусілі нашых пісьменьнікаў, паэтаў, артыстых выслаўляць вышшасьць і веліч свайго акупанта — «старэйшага брата». Непакорлівы-ж элемэнт ссылаўся імі ў канцэнтрацыйныя лягеры. Народны супраціў калектывізацыі бязьлітасна здушваўся. Сялянкі, кладучыся зь дзецьмі на загоны свае зямлі, у знак пратэсту супраць гвалтам адбіранае ад іх у калгас зямлі, раздушваліся чэкістаўскімі трактарыстымі. Да 30 мільёнаў непакорлівых Крамлю людзей апынуліся ў канцэнтрацыйных лягерах, прызначаныя на пэўнае фізычнае вынішчэньне. Сотні тысячаў найбольш небясьпечных і непапраўных, паводля перакананьня Крамля, ворагаў, расстрэльваліся на мясцох. На Украіне, як у ваднэй з найбольшых рэспублікаў, дзеля аслабленьня патэнцыялу супраціву Крамлю, быў уведзены ў 1932 годзе штучны голад. Ахвяраю гэтага жудаснага пакараньня зьгінула ад 5 да 6 мільёнаў украінскага жыхарства.

Ня менш жахлівая форма гэнасыдызму была ўжытая ў дачыненьні да 6 невялікіх народаў за выяўленую імі нелаяльнасьць да Крамля ў часе г. зв. Другой «Отечественной» Вайны. Народы Чэчэна-Інгускай, Карачаеўскай, Балкарскай, Калмыцкай і Крымскай Аўтаномных Рэспублік былі ўшчэнт вынішчаныя. На мапах СССР народы гэтыя, дагэтуль адзначаныя межамі аўтаномных рэспублікаў, сяньня ўжо ня існуюць, таму што ня існуюць ужо й гэныя народы.

Палкоўнік войскаў НКВД Г. Барлуцкі, які браў актыўны ўдзел у ліквідацыі Чэчэна-Інгускай Рэспублікі (а затым і іншых), больш трох гадзін апісваў перад Амэрыканскай Сэнацкай Камісіяй Кэрстэна дэталі вынішчэньня гэтых народаў. Пасьля двухмесячных падступных «манэўраў» арміі НКВД на тэрыторыі Чычэна-Інгускай Рэспублікі на працягу колькіх гадзін было затым арыштаванае ўсё поўмільённае жыхарства гэтага народу. Нарыхтаваныя эшалёны таварных вагонаў набіваліся, як селядцы ў бочку, мужчынамі, жанчынамі, дзецьмі, замыкаліся, плямбаваліся. Яшчэ да адпраўкі гэтых вагонаў людзі, замкнёныя ў іх, падымалі ад нявыносных лютаўскіх марозаў жахлівы лямант... Праз тры дні паднялa лямант скаціна, ад голаду й смагі. Раўлі каровы, аслы, вылі сабакі... Войскі НКВД пасьпешна былі выведзены, з баязьні іх дэмаралізацыі. Краіна асталася пустыняй — ня толькі бязь людзей, але й бяз жывёлы — усё вымерла.

Гэткае жудаснае пекла моцна ўразіла навет навыклага да бальшавіцкае жуды палкоўніка Барлуцкага, і ён пачаў шукаць магчымасьці ўцячы з СССР. Палкоўнік Барлуцкі апавядаў далей, як ён быў сьветкаю жорсткіх распраў зь летувіскімі партызанамі ў 1940-50 гадох і як ён чуў ад сваіх сяброў аб гэткіх зьвярыных распраўах з партызанамі ў Заходняй Беларусі й Заходняй Украіне.

39 год каляніяльна-гэнасыдаўскай палітыкі Крамля ў краінах нашых народаў — гэта пэрманэнтная вайна паняволеных народаў із сваім акупантам. Гэраічны супраціў бальшавізму каштаваў нашым народам больш 30-х мільёнаў ахвяр, што загінулі ў нявыказных лакутах, замораных голадам, задушаных у падвалах, замучаных садыстычнымі інквізытарамі — чэкістымі.

Ні адзін з найвялікшых народаў сьвету, ні Амэрыка, ні Францыя ні Ангельшчына ня мелі столькі ахвяраў у часе Першае й Другое Сусьветных войнаў разам, колькі ахвяраў меў кажны з найменшых нашых народаў у паасобку на працягу бальшавіцка- крамлёўскага панаваньня над імі.

Сталёвая заслона хавала ад вольнага сьвету ўсе жахлівыя крамлёўскія злачынствы. Зялезная заслона, як менш шчыльная, паказала вольнаму сьвету першы акт драмы сатэлітных народаў — бальшавіцкі гэнасыдызм у Вугоршчыне.

Можна быць упэўненым, што пасьля падзеяў у Польшчы й асабліва, пасьля вугорскае трагэдыі, зялезная заслона таксама пераtворыцца неўзабаве ў сталёвую, і сатэлітныя народы непазьбежна із стадыі падступна-нэпаўскага пэрыяду, пережытага нашымі народамі да 1928-29 гадоў, увойдуць у пэрыяд бязьлітаснага крамлёўскага гэнасыдызму. Сымптомам гэтага ёсьць рэакцыя Крамля на слушныя патрабаваньні вугорскага народу.

Драма, якая разыйгралася ў Вугоршчыне, у самым цэнтры эўрапэйскага кантынэнту, здрыганула ўсім цывілізаваным сьветам. Але ці-ж ня больш жудасным фіналам агульна-людзкай трагэдыі было-б, калі-б цывілізаваны сьвет абмежаваў сваю ўвагу адно зялезнаю заслонаю, не заглядаючы за сталёвую? За заслону, дзе больш сотні мільёнаў людзей гэраічна, на працягу 39-х год, нясупынна змагаецца зь нячуваным у сьвеце тэрорам, чакаючы ўвесь час дапамогі ад шчасьлівага вольнага сьвету. Нядаўныя бунты на Каўказе (у Грузіі ды Армэніі), нясупынны партызанцкі супраціў на Украіне, Беларусі й іншых рэспубліках нерасейскіх народаў СССР хіба гэта ня сыгналы, высыланыя вольнаму сьвету, ня просьба памогі?

Мы не патрабуем ад свабоднага й магутнага сьвету ваеннае інтэрвэнцыі, мы не патрабуем, хоць і заслужанага, зьнішчэньня крамлёўскіх забойцаў атамнай

(Заканчэньне на 8-ай бачыне)

ных у Амэрыцы курыных фармаў сказаць, што ягоная фарма, на якой ад трох да пяці тысяч кураў абслугоўвае сям'я з двох-трох асобаў, зь якіх яшчэ адна ў дадатак працуе на блізэйшай фабрыцы ёсьць камбінат, які мае дзяржаўнае значаньне, дык зусім слушным адказам будзе ягоны покатны сьмех.

Мы не сумняваемся ў тым, што ў пасьляваеннай Воршы спаленай усё-ж не фашыстымі, як сьцьвярджалася бальшавікамі на Нюрэнбэрскім працэсе, а імі, паводля сталінскага загаду аб «голай зямлі», зусім не цяжка плянаваць новую Воршу, хоць ва ўсім вольным сьвеце пляніроўка гарадоў адбываецца бязь іхняга суцэльнага зьнішчэньня. Аднак «генэральны плян» перабудовы Воршы, як адзначана ў кнізе «Мастацтва Савецкай Беларусі», выдадзенай у 1955 г. у «Мінску», мае адбыцца па вузору «радыяльна» кальцавое маскоўскае сыстэмы». Мэтраполія, эўраазійская Масква, якую вычарпальна сымбалізуе ейны Крывакалены закавулак, што, адыходзячы ад Мясьніцкае вуліцы да яе-ж і прыходзіць, мае стацца прыкладам для каляніяльных гарадоў. А хіба мы ня ведаем, што цяпер у Воршы ёсьць Красная (не Чырвоная) плошча, бо ёсьць у Маскве Красная плошча, якую цалкам характэрызуюць крывавае Лобнае Мейсца і маўзалей з муміямі Леніна ды Сталіна. І мы ведаем таксама, што ў цяперашняй Воршы, акрамя праспэктаў Леніна і Сталіна, ёсьць між іншым і праспэкт Тэкстыльшчыкаў, які дарэчы складаецца з васьмі чатырохпавярховых дамоў. Пяць, а можа шэсьць асобаў, адданых дарэшты савецкаму рэжыму, або ягоных гайдукоў, займаюць у ім кватэры, а ў іншых іхніх шматлікіх пакойчыках туляцца па аднае, а магчыма па дзьве сям'і. І няма зларадства з гэтае прычыны, бо не нашыя браты і сёстры тэкстыльшчыкі схавалі ў касьцёле Антона Падуанскага пад коламі аўтобусаў прызначанае таксама ім:

Salve!

бо нічога акрамя болю ня вычуваем мы за лёс свайго народу, якога крывёю ад крыві зьяўляемся на чужыне.

Яшчэ Овідзій казаў:

«Пакуль жыву, спадзяюся».

Спадзяемся і мы, палітычныя эмігранты, што ўрэшце-рэштаў нашая Бацькаўшчына станецца Вольнай і Незалежнай. Спадзяемся, што адыйдзе ў нябыт і станецца архіўным здабыткам прыказка:

Аднак мы ня толькі спадзяемся, але, скарыстоўваючы ўсе свае мачымасьці, змагаемся за ажыцьцяўленьне нашае Сьвятое Нацыянальнае Ідэі.

Мы чуемо дагэтуль, як паводля «Пскоўскага Першага Летапісу» у 1514 годзе:

«Бысть побоіще веліе Москвічем с Літвою под городом под Оршею, і воскрічаша і возопіша жены Оршанкі на трубы Московскія, і слышаті было стуку і грому велікому межы Москвічь і Літвою».

Мы не забываймо, як паводля «Летапісца Вялікага Княства Літоўскага»:

«І нашоў князь Канстантын войска Маскоўскае за Воршаю горадам, за Дняпром, на рацэ Крапіўніцы, і перабродзіўшыся з усім войскам і з дзелы цераз Днепр, і ўдарыліся войскі межы сябе ў пятніцу месяца сенцябра 8 дня, на самы празьнік Раства Прачыстае Богамацеры. І быў бой вельмі вялікі, бо ня роўна было Масквы ў пяць кроць больш, ніжлі Літвы.

І памог Бог каралю Жыгімонту і войску Літоўскаму, іж Маскву на галаву пабілі, і ваявод, што найстарых усіх паімалі ...»

І можа нашае, а магчыма наступнае пакаленьне пабачыць, як адродзіцца, як зьдзейсьніцца старая беларуская гістарычная песьня, прысьвечаная той заўзятай бітве:

Масква стала наракаці,  
Места Воршу пакідаці,  
А як з Воршы уцякалі,  
Рэчку невялічку праклінaлі:  
«Бадай ты, рэчанька,  
Сто лет высыхала,  
Як нашая слава тутка прапала,  
Бадай высыхала  
Да сканчэньня сьвету,  
Што нашай славанькі ужо нету.

**Юрка Віцьбіч**

Верасень 1956 г., ЗША

**Канец**

**Зьмітрок Бядуля**

# Салавей

### АПОВЕСЬЦЬ

**АД РЭДАКЦЫІ:** 3-га лістапада сёлета мінула пятнаццатая гадавіна з дня сьмерці выдатнага беларускага пісьменьніка й паэты Зьмітрака Бядулі (запраўднае прозьвішча Самуіл Плаўнік), які памёр каля гораду Уральска 3 лістапада 1941 году. Бядуля нарадзіўся ў 1886 годзе ў мястэчку Пасадзец Вялейскага павету Віленшчыны, як сын дробнага жыдоўскага гандляра. Ня гледзячы на сваё жыдоўскае паходжаньне, Бядуля шчыра палюбіў беларускі народ і быў гарачым беларускім патрыётам. Пачаў пісаць і друкаваць у «Нашай Ніве» спачатку кароткія апавяданьні-імпрэсіі, пасьлей вершы, а пасьля першае сьветавае вайны і буйныя празаічныя творы. Ягоная роля й значэньне ў беларускай літаратуры, галоўна як празаіка, вялікая. Бальшавіцкі ціск і тэрор, які ўвесь час існаваў у БССР, а пачынаючы з 1929—30 гг. перайшоў у безаглядны наступ супраць усяго беларускага, адчуў на сабе і Зьмітрок Бядуля. Спачатку ўсякімі магчымымі спосабамі ён супраціўляўся саветызацыі, пазьней, у меру завайстрэньня гэтага ціску й тэрору, Бядуля быў змушаны поўнасьцяй стаць на савецкія рэйкі, падобна як і цэлы рад іншых нашых паэтаў і пісьменьнікаў.

Каб адзначыць пятнаццатую гадавіну сьмерці Зьмітрака Бядулі, мы пачынаем перадрукоўваць, зь некаторымі скарачэньнямі, найбольш папулярную ягоную аповесьць «Салавей», напісаны ў 1926—27 годзе. Дзеяньне аповесьці разыгрываецца ў часы прыгону на Беларусі й паказвае адзін з жудасных мамэнтаў гэных часоў.

#### I

Вельмі жвавы хлопчык быў Сымонка. Да ўсяго прыглядаўся да ўсяго прыслухоўваўся.

Хлопчыка апанавалі колеры й гукі.

Усімі пачуцьцямі ўбіраў у сваю істоту вакольнае. Увесь сьвет быў, як у гнязьдзе, у яго сэрцы, для яго-ж. Навет сам

# Літаратурны Дадатак

## *Алесь Салавей*

**ЗЬНІЧЫ**

Малым дзічком ты быў да маладосьці
і жыў між дрэў, між траў. Плыла рака.
Зіхцела высь. Бязьмежжа весялосьці
гушкала сьвет на крылах ветрака.
Ці-б не хацеў паўтору тэй любосьці? . .
Стырчма тырчыць шчаціньне ў вяпрука.
Ні сонца йшчэ, ні зоры йзноў, ні зьнічы
ня вернуць больш нявіннай раньняй дзічы.

**ШЛЯХ**

„. . . Green in Summer, white in Winter,
Ever sighing, ever singing“.
(H. W. Longfellow)

Усё ўздыхай і мучайся, і енч аж —
адчуеш там садоў і ніваў сьпель.
Красой вясны зяленівасьць увенчыш,
зыгрэеш ёй зімы сьцюдзёнай бель.
Адзіны сьпеў — пабожна нізка ўкленчыш
жыцьцю свайму, у ім — нязьгіну хмель:
у гушчарох — у лесе і за лесам —
нязблудны шлях нясьхільным Гэркулесам.

**КОЛА**

І круціцца гісторыі ўсё кола,
у ім — адзін і той-жа самы дзень:
узмах крыла вышыннага сакола,
за небасьхіл прадонная карцень.
Высокі ўстрыб і нізкі звал. Наўкола
пазнай жыцьця няўрымсьцьлівы струмень:
адведаць высь, вярнуцца ўдол — ня спасьці,
крылатым зноў радзіцца на прапасьці.

**Алесь Салавей**

## *Міхась Кавыль*

# Новыя вершы

* * *

Хтось прарочыў, а кон перайначыў:
Ня збылося і збудзецца ці
Гэтак вобмігам, спраўца гарачы?

Рубікон мо й ня нам перайсьці,
На мае, на твае спадзяваньні
Ветры вэто паклалі ў трысьці.

За гарамі ружовыя раньні,
А навобмацак-дзіды жыцьця.
Сэрца нехаця хто не параніць?

Срогай рытмінай кволасьць зацяў,
Пад замок, зашыфраваны — крозы.
Весялосьці расхрыстваю сьцяг —

На сьцягу воя цёплыя сьлёзы. . .

**17 жніўня 56 г.**

**ТРЫЯЛЕТЫ**

**I.**

Я падслухаў цябе ля крыніцы,
Улюбленец багінь трыялет.
Прыгажосьці тваёй таямніцы
У сінявым трызвоне зарніцы,
Што у срэбныя хвалі глядзіцца
Там, дзе сумны сьхіліўся паэт.
Я падслухаў цябе ля крыніцы,
Улюбленец багінь трыялет.

2

Апошні раз даю зарок
Урэзаць песьні сумнай крыльле.
Яна, змагарнасьці парок,
Зьбівае з рытму войны крок:
Аб ёй сказаў якісь прарок:
Яе узвышша — замагільле.
Апошні раз даю зарок
Урэзаць песьні сумнай крыльле.

3

«Ня было і няма весялосьці. . .»
Ул. Дудзіцкі

«Ня было і няма. . .» І ня трэба.
Весялосьцю ня купіш тугі.
На абрусе блакітнага неба
Ёсьць акраец няспытаны хлеба,
Найвялікшая сэрца патрэба
На аблоні, дзе вецер тугі. . .
Ня было і няма. . . І ня трэба.
Весялосьцю ня купіш тугі.

4

Не, ня плакаць ад злосьнікаў сьмеху,
Я валею сьмяяцца да сьлёз.
Дон Кіхоты галосяць — пацеху!
Старадумы — паэму пра стрэху!
Ідыёты — маўклівага рэха! . .
Ці-ж паэт не пад сонцам узрос?
Не, ня плакаць ад злосьнікаў сьмеху,
Я валею сьмяяцца да сьлёз.

Жнівень 1956 г.

* * *

Душой шырокай удзіўляў я сьвет,
Скупы, зайздросны, на чужое падкі.
Хлусы, суцягі пляскалі у ладкі:
— Браток, ды ты-ж найлепшы наш паэт! . .

Ганьнёй сасмаглай, што чмялі на цьвет,
Бадзягі цёмныя, жыцьця ападкі
За мной сьцігалі, адтапталі пяткі,
Цягнулі цень мой п'яны ў кабарэт.

О, здрадны кон! Супольнікі вясельля
Мяне ці ўспомняць за сталом пахмельля?
Праносіць Бахус міма сіні нос. . .

Хвала табе, мой апякун цьвярозы!
Благаслаўлю той дзень, што мне прынёс
Спакойны сон і прабуджэньня крозы!

1956 г.

* * *

Аднойчы бачыў у трывожным сьне:
Зямля ў вагні, у грокаце і гуле. . .
Ідзе праз буры буйнае разгульле
Мая душа у госьці да мяне.

Вісіць Хрыстос, расьпяты на сьцяне,
І сьвечку ставіць у нагах матуля. . .
Вылазіць чорны дамавы з атульля,
Нясе мой меч, забыты на вайне. . .

О, сьвет уяў чульлівага паэта!
Ляжыць на лаве ў доме мерцьвякоў
Майго жыцьця загубленая мэта.

А я, Фама, зьнявераю разьбіты,
Гукаю дух адгойсаных вякоў,
Напіцца прагну вечнай акавіты.

1956 г.

* * *

Шукачы блакітных пэрлаў
На нязьведаных глыбінях. . .
Караблёў разбойных жэрлы
Ноччу чорнай іх ня спыняць.

Дзе снуюцца васьміногі,
Дзіды рыфаў ды каралі,
Непярэймы да зьнямогі
Няутоймныя сігалі.

Напіваліся зь няўдачы,
Пахмяляліся з находкі;
Ім пяялі «Кукарачу»
Чорнавокія какоткі. . .

За кармою бурапена. . .
Курс — да стрыму у сакрэце.
Заўтра пэрлы, чад тавэрны. . .
О, прыгодаў, мора дзеці.

* * *

Гніём, бы з таго дубу целяшы,
Сто год назад заваленыя ў ваду. . .
Ускросіць Край утрацілі нагоду —
Замоўк прарок у ледзяной глушы. . .

Дасочны праўды, ў кнігу запішы
Крывавы шлях змагарнага народу
Ды наш разлад і братнюю нязгоду
На чорным бела-крыўным кірмашы!

Каторы год цябе, мая Уцеха,
Нагамі топча злыбядзі пацеха!?
Радзеюць шыхты мужных змагароў.
О, пушчаў шум, зруйнаваныя межы.
Зацьвізела на папялішчы кроў,
А Збаўцу водзяць шайтаны, мярэжы. . .

1956 г.

**ВЕЧАР**

Наліліся сокам сонца зоры.
Маўкліня. Ня шэпчуць чараты.
Тумаnoў блакітныя уборы
Паразьвешваў вецер на кусты.

За сялом зялёныя дубровы
Шэры падпяразваюць хвартух.
Малаком цяжарныя каровы
Праганяе выганам пастух.

Парасьселася ў гальлі на веча
Вараньнё у чорных лахманох.
На спатканьне з ноччу вышаў вечар,
Малады замроены манах.

1945 г.

* * *

Бы мурашка, не па росту падымаю цяжар,
Зьгібаюся, нясу, глытаю пот гарачы;
Зьняможаны, паглядаю ў неба, можа, скажа:
«Апошняя ступень, адпачні, бядача!. . .»

У небе маўкліня. Цяжка.
Паўзі, чалавек-мурашка!

1956 г.

**Міхась Кавыль**

## *Уладзімер Клішэвіч*

# Вершы

**РАСПАКАВАНЬНЕ**

У сьвеце зману і уяў
мяшкі з праходу ў кут адсуньце.
Я іх даўно распакаваў
і мулка сеў на новым груньце.

У вырашэньні сьціплых спраў
я зьняў з каня часова збрую.
Усё, што мог, распакаваў,
душы — нідзе не распакую.

**19. 12. 1955**

* * *

Я ня ведаю, што у будучыні будзе,
толькі сяньня кветкі адцьвілі.
Расчараваны ў сабе і людзях,
не знаходжу выйсьця на зямлі.

Што рабіць? Куды ісьці? — скажэце.
Перарвалася маіх надзеяў ніць.
Цяжка мне у гэтым нудным сьвеце,
а яшчэ цяжэй штодзённа гніць.

Я агнём жыву сьвятое Беларусі
і цалую ў муках зямлю і траву.
Вось чаму я духам не здаюся,
вось чаму я на зямлі жыву.

**17. II. 1955**

* * *

Белая кветка шыпшыны завяла,
лісьцікі вецер растрос і раськідаў.
Адны зь іх павісьлі на голачках дзідаў,
звалілася іншых на зямлю нямала.

Вецер і сонца над імі сваволіць,
цёмная ноч зачароўвае цішшу.
Кветкі галоўкамі больш не калышуць,
ім не падняцца ўжо болей ніколі.

Чорны узор на ёй сьмерць малявала,
можа спажытак галодных акрыдаў?
Лісьцікі вецер растрос і раськідаў,
белая кветка шыпшыны завяла.

**11. 6. 1955**

* * *

Нічым не пацешыла сэрца маё
краіна цяпла й прыгажосьці.
Чужое бястактна сьпявае трыё
таму, хто няпрошаным госьцем.

**2. 11. 1953**

**(Заканчэньне на 6-ай бачыне)**

---

пан Вашамірскі, якому належалі ўсе вакольныя вёскі, той самы пан, які купіў яго, Сымонкі, бацьку за каня ў суседняга пана Весялоўскага, быў цікавым для хлопчыка. Ён наглядаў і за панам.

Што-ж! І кузурка, што паўзе па лісьціку, мо' думае, што сьвет створан спэцыяльна для яе.

Школу жыцьця Сымонка пачаў праходзіць, маючы шэсьць гадоў ад нараджэньня. Спачатку пасьвіў гусей на вялікім выгане, пасьля — сьвіней; за гэтым давалі пад яго апеку авечак, потым — кароў, а ў канцы зрабіўся і баранавалокам.

Ён паволі і грунтоўна падымаўся ўгору па лесьніцы мужыцкай навукі.

Апрача гэтага, Сымонка меў яшчэ нязвычайную здольнасьць, якой навучыўся ў палёх і лясох пана Вашамірскага: падрабляць гукі прыроды і жывых істот.

Гаўкаць па-сабачаму, кукарэкаць, як певень, мяўкаць, як кот, мэкаць, як цялё, выць па-воўчаму — было для яго самай звычайнай і простай штукай.

Ён да таго па-мастацку мог брахаць, што перадаваў самыя замысловатыя тоны і пералівы голасу кажнага паасобку сабакі з псярні пана Вашамірскага.

Падрабляць голас і інтанацыю людзей было для яго самым простым жартам.

Ён мог губамі перадаваць дзынканьне пчалы, гуд камара, шэпт лесу, скрып варот. Кракаў, як варона, кукаваў зязюляй, сьпяваў жаўранкам і заліваўся салаўём на розныя лады, на ўсялякія манеры.

У дадатак ён мог яшчэ падрабляць рухі і міміку.

Здаецца, як можна адной мімікай твару паказваць пеўня?

А Сымонка мог — скорчыць такую фізіяномію, зробіць такія вочы, што кажны гаварыў:

— Певень, дый годзе!

Скакаць, як заяц, як цялушка, — гэта навет увагі ня варта.

Вялікая кемнасьць да ўсяго гэтага была ў Сымонкі. Ён сваім дзівацкім талентам сам захапляўся, углыбляў яго, разьвіваў, адшліфоўваў. Гэта ня было ў яго толькі забавай дзіцячых гадоў, — наадварот: практыкаваўся ў гэтым штукарстве з кажным годам усё больш і больш.

Цяжка вытлумачыць, чаму спадабалася яму якраз такое штукарства, а не, напрыклад, ігра на музычным інструмэнце або звычайныя сьпевы. Звычайнае яго ня вабіла, мабуць, дзеля таго, што ён бачыў і чуў многа ў панскім двары.

Яму хацелася быць такім, якім сьвет (яго ваколіца) яшчэ нікога ня бачыў.

Сымонка яшчэ малым хлопчыкам любіў сьпевы салаўя. У вялізарным панскім парку ў кажную вясну іх было многа.

Інакш, чым на іншых людзей, рабілі на яго ўражаньне рознастайныя гукі лесу ўлетку, калі ён цягаўся туды із стадам.

Цяга да гукаў запанавала ім. Ня так, як усе людзі, прыслухоўваўся да разнастайных пераліваў чалавечага голасу, да шораху пяску пад босай нагой, да скрыпу сьнегу, да выцьця і сьвісту ветру, да шэптаў жыта на полі.

Вялізнае багацьце гукаў, вечную іх іначасьць ён знаходзіў усюды. Ён выкрыў, што ў тых мільёнах гукаў, якія чуе на кажным кроку, усюды, у любы час, няма сходных між сабою. Такое зьявішча яго вельмі дзівіла. Гукамі цэлы сьвет поўны ня менш, чым мора — хвалямі, зямля — пяском, дрэвы — лісьцем. Вялізны няведамы інструмэнт, які працягвае свае нябачныя струны, нібы павуціньне, па ўсім сьвеце з канца ў канец.

Сымонка адчувае ў вакольным зусім ня тое, што яго равесьнікі. Часам сядзіць у полі на пні і пазірае ўдаль. Глядзіць і ня бачыць, што зараніца палыхае ў нябесным бяскраі, пераліваецца ў розныя колеры. На кустох блішчыць шкляным шротам раса.

Ён прыслухоўваецца да голасу зямлі — да яе тысячаструнных гусьляў.

Дзіцячыя мары ахопліваюць яго:

— Эх, каб сабраць усе гэтыя гукі ў вадно — у сваю жменю, і потым патрохі выпускаць іх адтуль кропелькамі. Аслабіў жменю: пачынаюць сыпацца розныя чалавечыя гутаркі. Раздаецца страшны плач-стогн, як анэгды плакаў Рымарчук, калі на стайні яму ўсыпалі гарачых бізуноў па загаду пана Вышамірскага. Адпусьціў трохі яшчэ адзін палец — хтосьці зарагатаў. Замахаў жменяй — лясныя птушкі сьпяваюць, жабы квакаюць. Кіўнуў рукой яшчэ раз — вецер вые, грымоты гагочуць, паласуюць неба маланкі.

А вакол усюды ціха-ціха. . .

Усе галасы зямлі сьціснуты ў кулаку Сымонкі.

Людзі анямелі, гаварыць ня могуць. Жывёлы, птушкі — усе маўчаць. Ня шумяць дрэвы. На зямлі пануе такая нямота, такая дрымотная ціша, што сполах бярэ. Панскі фурман махнуў у паветры даўжэзнай пугай. Яна самастрэлам заўсёды страляе, а на гэты раз анямела.

Захацеў пан Вашамірскі загадаць камусьці даць дваццаць бізуноў — голасу ня мае. . .

Усе галасы зямлі захаваны ў кулаку Сымонкі.

Пры гэтым у выабражэньні Сымонкі паўстаюць, як жывыя, сьмешныя малюнкі: людзі, жывёлы перапалоханы. Не разумеюць, што чыніцца вакол. Кажны паасобку думае — ці ён аглох, або сьвет увесь вымірае.

Сымонка бачыць перад сабою нябывалыя, дзівацкія малюнкі.

Нацешыўшыся ў меру такім фокусам, ён — фокусьнік які забраў у жменю ўсе гукі зямлі, — раптам расчыняе кулак, і галасы, песьні, скрыпы, шумы, стогны, стрэлы, шолахі, звоны пачынаюць сыпацца ў свае ранейшыя месцы, як нявідочны дождж. Для Сымонкі можа навет і відочны, бо ён адчувае рух і хваляваньне паветра ад кажнага гуку й шуму; для яго, калі прайшоў гук які, — тое самае, што жывая істота, якую можна намацаць рукою. Вось як-бы праходзіў чалавек ці жывёліна. . .

Патрохі ўсё зноў ажывае. Ніхто, апрача Сымонкі, навет і ня прыкмеціў, як гэта сталася.

Сымонка ачуньвае ад сваіх сноў на яве. Што-ж! У яго толькі ёсьць магчымасьць падрабляць гукі, а ня мець іх у сваёй уладарнасьці. Але і гэтая яго кемнасьць дзівіць людзей.

Выйдзе ўночы. Ціш на двары. Раптам, як закукарэкае, дык саб'е з панталыку ўсіх пеўняў. Яны пачынаюць за ім кукарэкаць не ў пару. Разам зь імі зьбіваюцца з толку і мужыкі і панскія чаляднікі. Певень паказвае людзям, калі на работу ўставаць.

Часам здумаецца яму завыць ваўком. Тады ўсе сабакі пачынаюць за ім цягнуць жудасную музыку. Па ўсіх вакольных вёсках людзі палохаюцца.

Чаляднікі паміж сабою пачынаюць часам шэптам праклінаць пана. Падкрадзецца нямаведама скуль Сымонка і як загрыміць цюцелька-ў-цюцельку голасам пана Вашамірскага:

— А бізуноў, лебедзіку, хочаш?

Усе з перапуду пабялеюць, зуб аб зуб заляпае.

А здумаецца яму ні з таго, ні зь сяго ўзімку, у траскучы мароз, засьпяваць салаўём. Выйдзе на дзядзінец, як зацягне, як пачне сыпаць трэлі, дык цэлую грамаду зьбярэ вакол сябе,

***Рыгор Крушына***

# Вершы з Капры

* * *

На шырокой тэрасе —
радасьць звонкай гітары.
Нехта сэрцам стараўся
дагадзіць маёй мары,
дагадзіць маёй песьні
на сулад, адмыслова.
І сьпляталіся цесна
гукі струнаў у слова.
І я слухаў той голас —
сілу тонкай прынады.
На жыцьця майго полюс
паплылі сэрэнады,
паплылі нада мною,
над маёю самотай
харaством, цяплынёю
і салодкай пяшчотай.
Я ў пакуце пакора,
засмучоны салоўка.
Непазабытае гора,
як на горле вяроўка.
Боль праходзіць праз прызму,
у пачуцьцях — замова.
І на Капры капрызна
ў песьню просіцца слова.

* * *

Выразаеш сэрца на агаве
і гаворыш любай пра пачуцьці...
Ты разьбою памятку паставіў,
як разбой эротыка ў закуцьці.

Ты далонь зялёную параніў
беднай жыцьцярадаснай расьліне.
І стаіць яна ў набожным стане,
чуе ў садзе музыку Расьсіні.

І свае мясістыя далоні
разьвінае, молячыся сонцу.
Вось любоў у залатым палоне.
а твая палошчацца ў палонцы!

Лёгкадумнасьць. У руцэ сьцізорык.
Сок густы і сьмяга маладая...
Колькі розных літараў і зорак
Спад ляза на зеліва спадае!

Калі маеш сэрца, дык навошта
выразаеш сэрца на агаве?
Усёроўна гэтым дзікім коштам
не заслужыш прыязьні і славы.

* * *

Даўно завялі анэмоны...
Чужая прыйдзе — ў сьвет пакліча
У Рафаэлявай Мадоны
зазьзяюць вочы таямніча.

А я зірну і усьміхнуся,
і позірк мой сьпляту зь дзявочым,
і мы ў сьпякоце і спакусе
напэўна шмат чаго захочам...

І разам радасьць, боль і мукі,
і ўсё, што ёсьць на белым сьвеце,
адзіным рухам схопяць рукі
ў гарачым пацiску, прывеце.

* * *

Мы з табою ляжам
блізу хвалі.
Над бязьлюдным пляжам —
сінь, каралі...
Гэта твае вочы,
твае вусны,
і твой сьмех дзявочы
так спакусны.
Ці ня раз плячыма
паціскала:
тут усё магчыма
ў гордых скалах.
Тонкі шоўк бікіні
скраў твой сорам...
Мора пену ўськіне, —
мы паўторым,
лясьнем даланямі
па тэй хвалі,
у якой мы днямі
пал хавалі.

* * *

Цыкады ў перазвоне.
І яшчаркі на скале.
Ля выспы Фаралёні
паюць, сьмяюцца хвалі.

Круты ўзьбярэжжа выступ
у мокрай парусіне...
Навокал урачыстасьць
зямлі і чыстай сіні.

І небасхіл і мора
зьвязала сонца гужам.
Дармо ад сьпекі змора —
я выглядаю дужым.

Басонаж на каменьні,
на войстрым і шчарбатым,
стаю, і ў захапленьні
пяю з блакітным сьвятам.

**Рыгор Крушына**

***Уладзімер Клішэвіч***

# Вершы

**(Заканчэньне зь 5-ай бачыны)**

* * *

Дзе толькі не стагналі мы.
Я з болем часта ўспамінаю
і воды мутнай Калымы,
і хвалі сіняга Дунаю.

Перада мной стаяць дамы,
высока цыгнучыся ў неба.
Чаго не спрабавалі мы,
каб толькі мець кавалак хлеба.

Бязьлітаснасьць жыцьця зямлі!
Ты слова добрага ня варта,
каб на страшэнным караблі
трымацца так цябе упарта.

**5. 7. 1949**

### СЯБРОМ

Адзін лёс мы разам спаткалі,
гады турмы, выгнаньне у Сібір;
міналі на шляху чужыя далі,
нам ногі рэзаў азіяцкі жвір.

А мы ішлі, ня зьвешвалі галовы,
нясьлі з сабой агонь сьвятых надзей;
былі нам гонарам свабоды словы,
няшчаснымі былі сярод людзей.

Гады ішлі. І нас вайна спаткала,
перамяніла нам нанова кайданы.
Загінула, сябры, нас у вайне нямала,
а дзе магілы іх, а дзе ляжаць яны?

Шумяць трывожна Беларусі нівы,
калыша вецер сонную траву.
Адзіны я з усіх сяброў шчасьлівы,
ды толькі тым, што на зямлі жыву.

Сябры мае жыцьцёвых няудачаў,
прымеце мой на разьвітаньне сум.
Няволю цяжкую мы ўсё-ж адплачам,
а Беларусі сьцяг я далей панясу.

**16. 5. 1946**

* * *

Родны край! Як забыць на раўніну,
на багатых палеткаў красу?
У выгнаньні свайму яны сыну
прывітаньне здалёку нясуць.

Ціха гнецца на ветры калосьсе,
мяккі подых шуміць у траве;
гэта музыку хвалі разносяць,
плаўна радасьці песьня плыве.

Дзесь далёка працяглае рэха
у гадзіну вячэрняй пары
бястурботнаю песьняй і сьмехам
адгукнулася ў сінім бары.

Кажны дзень я трывожна згараю,
памірыцца з жыцьцём не магу.
Толькі вы, успаміны аб краю,
разганяеце ў сэрцы тугу.

**Бэрлін, 10. 12. 1944**

**Уладзімер Клішэвіч**

# Прэпарацыя беларускай народнай песьні

Калі ў зьбіраньні беларускага песеннага фальклёру прыймала ўдзел ужо ня так мала салідных і ведамых навукоўцаў-этнаграфаў, музыкаў, аматараў-краяведаў, — дык дасьледаваньнем чыста музычных дадзеных займаліся толькі лічаныя адзінкі, ды й то ў зусім агульным пляне. Тым ня менш аснаўныя рысы характэрнасьці, самабытнасьці й арыгінальнасьці беларускай народнай песьні, усё-ткі, у пэўнай меры былі схопленыя. Вельмі цікавым фактам зьяўляюцца ў гэтым сэньсе заўвагі аднаго з аснавальнікаў расейскага музыказнаўства, буйнага тэарэтыка й кампазытара **Сярова,** што яшчэ ў мінулым стагодзьдзі (у 40-50 гадох) адзначыў асаблівыя ладавыя асаблівасьці старых славянскіх напеваў, якія карэнным чынам адрозьніваюцца ад Заходня-эўрапэйскай ладавай сыстэмы (мажора й мінора), — пры чым гэтыя асаблівасьці вылучаліся перад ім тым яскравей, чым больш старавечным быў самы матыў. Градацыя гэтай старавечнасьці, а значыцца й самабытнасьці, паводля Сярова, выглядала ў такой пасьлядоўнасьці:

а) Вяліка-расейская песьня (наймалодшая),

б) Украінская песьня й

в) Беларуская песьня.

Падобны вынік расейскага вучонага й мастака сьветчыць аб аб'ектыўнасьці ягоных дасьледаваньняў і, ня гледзячы на маласлоўе, дае, аднак, магчымасьць устанавіць надзвычай істотныя бакі беларускага песеннага фальклёру, пайменна:

а) глыбокую старадаўнасьць яго паходжаньня, і

б) яскрава выражаную яго сваеасаблівасьць.

Аб спэцыфіцы беларускага песеннага творства ў далейшыя часы пісьменна й вусна заяўлялі амаль што ўсе дасьледавальнікі й зьбіральнікі, у тым ліку й такія дзеячы мастацтва, як **Іпалітаў-Іваноў** (былы старшыня беларускай песеннай камісіі ў Маскве), **Грэчанінаў** (які доўгія часы працаваў над беларускай песеннасьцю), **Няжданава** (адна з выключных выканальніц беларускай песьні) і іншыя. Шмат таго, аб чым я гавару тут, ужо дастаткова ведама шырокаму грамадзтву.

Здавалася-б, што савецкая ўлада, пры якой, паводля ейных-жа словаў, нацыянальнае мастацтва толькі й атрымала «запраўдную глебу» для росту й росквіту, мусіла-б асабліва клапаціцца аб тым, каб справа дасьледаваньня беларускага песеннага фальклёру была пастаўлена на належную вышыню. Навонкі, памылкова можна-б было гэтак сабе і ўявіць, калі чытаеш аб фальклёрных сэкцыях, аддзелах, камісіях, брыгадах, што лічацца існуючымі ў БССР пры Акадэміі Навук, саюзах пісьменьнікаў і кампазытараў, у кансэрваторыі, але вось што дзіўна: за ўвесь час існаваньня савецкай улады выйшлі ў сьвет толькі два журнальных артыкулы (навет, ня працы) па гэтаму неабходнаму пытаньню:

1) «Сацыяльнае пераасэнсаваньне жніўных беларускіх народных песьняў» (у 1934 г.) і

2) «Беларуская народная песьня» (у 1941 г.).

Абодвы гэтыя артыкулы належацца маскоўскаму музыкаведу З. Эвальду. Апошняя зьява тым больш выклікае недарэчнасьці, калі ўзяць пад увагу, што ў БССР цяпер жывуць і працуюць такія спэцыялістыя ў галіне беларускай народнай песеннай творчасьці, як Шырма, Аладаў, Туранкоў, Пукст, Чуркін, Цікоцкі й іншыя. Чаму-ж ня ім, тым, хто ведае беларускую песьню ад дзяцінства, хто працаваў над ёю ўсё жыцьцё, — былі даручаныя афіцыйныя выступу ў друку па пытаньню беларускага песеннага фальклёру, а чалавеку, які прыезджаў у БССР толькі на кароткія гастролі, каторы ня знаецца ані на жыцьці, ані на гісторыі мастацтва беларускага народу?

Адказ будзе ясны сам сабою, калі прыгледзіцца да высноваў дасьледаваньняў гэтага партыйнага таварыша Эвальда. Ён, звычайна, ня супраць беларускай песьні, навет вызнае яе некаторую спэцыфіку, але яна выклікае, усё-такі й досыць многа ягоных незадаваленьняў. У беларускай песьні, бачыце, няма «шырокага дыханьня», занадта «вузкія лады», не хапае «падгалоскаў», — толькі песьні больш позьняга паходжаньня ў аспэкце Эвальда выглядаюць лепш, у іх «кола выразных сяродкаў пашыраецца, песьня ўзбагачваецца»(?). Такога «вучонага» сябры беларускай песеннасьці трэ'баяцца больш чымся таго, хто зусім яе ня вызнае. Што значыцца ўзбагаціць беларускую народную творчасьць мэтадамі Эвальда? Гэта значыцца выкараніць зь яе тое, чым яна запраўды багатая, пайменна сваім ляканізмам музычных ся-

(Заканчэньне на 8-ай бачыне)

пакуль хто з панскіх гайдукоў па загаду цівуна бізуном іх не разгоніць.

Так праходзілі дзіцячыя гады Сымонкі.

## II

Гарачы летні поўдзень.

Жніво.

Больш паўсотні кабет, маладых і старых, жнуць панскае поле.

Мігцяць сярпы мядзянкамі-зьмейкамі. Бялеюцца хусткі і сьпіны жнеек. Бабы і дзяўчаты гнуцца да самай глебы — тварам да зямлі, а сьпінамі да сонца.

На шырокім прасторы сьветлажоўтага жытняга поля чуваць шорханьне.

— Жых-жах, жых-жах, — гутараць сярпы зь цьвёрдымі сьцяблами.

Каласы нахіляюцца, пільна прыслухоўваюцца да глухога шуму. Туліцца-цісьнецца ў пяшчоце галоўка да галоўкі, а жнея душыць закарузлай, патрэсканай, мазалістай рукою цэлае племя жытніх сьцяблоў.

Каля жней шмыргаюць прыганятыя зь бізунамі ў руках.

Вярхом на кані гарцуе цівун між мэндлікамі па іржаньні. Грозна крычыць.

На вялізныя дваровыя драбіны мужыкі кладуць снапы. Трэба весьці на панскае гумно.

У цівуна на плячох паляўнічая стрэльба. Ён здымае стрэльбу і пачынае цэліцца ў стада варон, якое рассыпалася чорнашэрымі плямамі па зжатым полі.

Цэліцца доўга, сьмешна жмурыць правае вока, падымае ўверх брыво над левым...

Сяляне пачалі пазяхаць каля вазоў, спынілі працу і давай у гультаяватай зморанасьці глядзець, ці пападзе «пан цівун» у птушку.

Зацікавіліся і жнеі. Хоць прыганятыя, калі хто зазяваецца, падагравалі бізунамі, але на гэты раз і прыганятыя таксама сачылі за стральцом.

Гонар і пашана яму ад паднявольных людзей...

Паважна і пільна цэліцца цівун. Нібы зараз увесь прастор наскрозь прастрэліць.

Вакол ціха. Усе спынілі працу.

Павага, павага панскаму цівуну!

Адна старая сялянка ня выцярпела — буркнула:

— Пану цівуну варон страляць, а нам сьпіны гнуць!

Вырваліся зьнянацку ганьблівыя словы. Ніхто не цягнуў за язык.

Не пасьпела яна скончыць, як падскочыў прыганяты, як падняў над ёй бізун. Ён злосна прахрыпеў:

— Я табе пакажу, пся косьць, як бурчэць!

Ляск бізуна па згорбленых плячах кабеты ня чуваць быў, хоць пры ўдары прыганяты моцна, із смакам крыкнуў: «гэээх»!

Сьвіст бізуна быў заглушаны стрэлам цівуна. У вадну і тую самую хвіліну трапілі. Пакруціўся дымок. Запахла дымам. Вароны з шумам, зь лёскатам крыльляў падняліся ўверх і паляцелі з трывожным краканьнем у бок лесу.

Цівун паслаў мужыка паглядзець, ці папаў у птушку. Той угодлівым крокам пабег, падскокваючы на вострым іржышчы чорнымі босымі нагамі. Прынёс застрэленую варону, падаў пану цівуну і ўгодліва сьмяяўся:

— Гэ-гэ-гэ-э-э!

У гэты самы час да цівуна падышоў прыганяты з даносам на старую кабету:

— Старая сука пана цівуна не паважае. Яна казала: «Цівуну варон страляць, а нам сьпіны гнуць».

Не пасьпела зыйсьці з твару цівуна ўсьмешка задаваленасьці ад удачнай страляніны, як твар наліўся крывёй, вочы заблішчэлі.

— Як?! Во гэта падла старая будзе гаварыць? Я ёй пакажу! Палажыць ёй за пазуху мёртвую варону! Няхай трымае да самага вечара! Гэй, ты, галган, — зьвярнуўся ён да мужыка — дай яму (цівун паказаў на прыганятага) варону!

Прыганяты ўзяў з рук мужыка варону і панёс з рогатам да старой бабы. За ім на кані пад'ехаў цівун.

Старая кабета зь лямантам-выцьцём кінулася цівуну ў ногі. Яна крыжам распласталася на іржышчы чуць не пад самыя ногі каня і выла немым голасам. Ледзь можна было ў гэтых прыдушаных галошаньнях пазнаць словы:

— Даруй, паночку... даруй, міленькі...

Срогі і грозны быў пан цівун.

Старую паставілі на ногі, расшпілілі ёй вопратку і палажылі паміж худых вісячых грудзей — за зрэбную, цьвёрдую, як бляха, кашулю — акрываўленую, забітую варону.

— Жаць, пся косьць, ідзі! — крыкнуў цівун.

Ніжэй сагнулі сьпіны жнейкі, шыбчэй зашорхалі сярпы. Мужыкі пры вазох пахмурнелі, сьціснулі моцна, да скрыпу, зубы і давай накладваць снапы. Лаянкі і пракляцьці хацелі зрывацца із смаглых губ, але нема маўчалі яны. Ад злосьці толькі пляваліся людзі.

Пільней за іншых глядзелі за ўсім гэтым два чалавекі — малады Сымон і дачка пакрыўджанай старой, Зоська.

Сымон ірвануўся было ратаваць кабету, сьціскваў кулакі, скрыгатаў зубамі і ледзь стрымліваў сябе.

У Зоські у вачох заблішчэлі сьлёзы.

— Матанька... Маці... — шаптала яна і кусала губы да крыві.

Над шырокім полем раптам шугануў моцны вецер. Давай скубсьці хусткі на галовах баб, давай трапаць чубы снапоў. Вецер прагульваўся нявідочнымі нагамі па золаце каласоў шырокага жытняга поля.

Пералівы жоўта-зялёнага колеру мільгалі над жнівом.

Задрыжэў здалёку лес, завойкаў, закрахтаў. Далі, яркія празрыстыя, як шкло, пачалі зацягвацца валокнамі шэрай баваўны. Па небе распаўзьліся хмары, накінулі на сонца ваўняную сьвітку. Воблакі прыдушылі сонца. Дзень пахмурнеў ад злосьці й згрызоты. Над абшарам навісла вялізная шэра-сіняя хмара.

Поле страціла залацісты блеск. Бруднашэры колер вісеў над людзьмі.

Дзесьці далёка за лесом глуха загрукаталі грымоты.

Нехта малаціў зялезнымі цапамі па зялезным таку.

Яшчэ больш пацямнела. Лес набух, як вялізная губка, наліўся сінім атрамантам. Птушкі паднялі крык.

Жнеям загадалі зьбіраць снапы ў мэндлікі. Рухава запрацавалі прыгонныя. Панскае дабро можа сапсавацца. Наехала з двара яшчэ шмат фурманак.

Ледзь пасьпелі накласьці поўныя вазы. Маланкі пачалі паласаваць неба. Чырвоныя вяроўкі раскручваліся па хмарах, сьляпілі блескам спалоханую ваколіцу.

Хтосьці лупцаваў неба агнёвымі бізунамі, хтосьці гікаў злосна па-за хмарамі...

Нехта пад лесам лаяўся на пакалечанай мове заік. Нехта глуханямы крычаў, выў, рагатаў і іржаў, як сто жарабцоў.

(Далей будзе)

# Срэбны юбілей айца Робэрта

3-га лістапада сёлета мінула 25 год сьвятарства й манаскага жыцьця ведамага ўсім нам айца Робэрта Ван Каўэлярта дэ Ўільс.

Напярэдадні гэтага сьвята, у студэнцкім доме ў Лювэне Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне супольна з «Акадэмікусам» (лювэнскія абсальвэнты) наладзілі невялікую сямейную ўрачыстасьць, вітаючы Дарагога Юбіляра ды перадаючы яму ў падарунак прыгожае сьвятарское адзеньне.

Назаўтра ў сяле Лёмбэк ля Бруксэлі, месцы народжаньня а. Робэрта ды месцы ягонае першае сьв. Літургіі, адбылася ўрачыстая Багаслужба й супольны абед. У сьвяткаваньні ўзялі ўдзел шматлікія родзічы а. Робэрта (сярод якіх можна было бачыць дзяржаўнага міністра й былога прэзыдэнта бэльгійскага сойму Фр. Ван Каўэлярта, высокапаважанага абата Афлігемскага Фр. дэ Ўільса, галоўнага рэдактара найбольшае флямандзкае газэты «Гэт Фольк» К. Ван Каўэлярта і інш.), ягоныя бліжэйшыя сябры й знаёмыя ды беларускія студэнты.

Між іншых, ад імя беларускіх арганізацыяў і ўстановаў паважанага Юбіляра віталі: а. А. Смаршчок, сп. сп. Я. Запруднік, С. Мак і А. Арэшка. На заканчэньне бяседы, па старой традыцыі, гучэлі беларускія песьні.

У тон выказаным шматлікім пажаданьням ды ў тон беларускаму студэнцкаму хору, хочацца яшчэ раз паўтарыць а. Робэрту — «Многая лета!», «Сто год!»

З.

# Месяц таннай беларускай кніжкі

(Заканчэньне зь 7-ай бачыны)

народ ды вучацца роднае мовы.

Маючы ўсё гэта наўвеце, Выдавецтва «Бацькаўшчыны» зьвярнула асаблівую ўвагу на выдаваньне асобнымі кніжкамі найлепшых твораў нашых пісьменьнікаў і паэтаў, як клясыкаў, гэтак і эміграцыйных аўтараў, укладаючы ў гэтую справу свае сьціглыя матарыяльныя сродкі й бязінтэрэсоўную працу сваіх працаўнікоў. Пачынаючы ад 1952 году, за гэтыя чатыры гады Выдавецтва выпусьціла ў сьвет дзесяць цэнных кніжак і асобна вялікі патрэт найвялікшага нашага нацыянальнага паэты Янкі Купалы. Усе гэтыя выданьні пералічаныя на апошняй бачыне гэтага нумару газэты й там-жа пададзеныя іхныя цэны.

Каб даць магчымасьць усім нашым суродзічам прыдбаць у собскасьць усе гэтыя выданьні, што складаюць сабою паважную бібліятэчку, Выдавецтва «Бацькаўшчыны» абвяшчае **месяц студзень 1957 году — месяцам таннай беларускай кніжкі. Хто купіць адразу ўсе чыста беларускія кніжкі, пералічаныя на апошняй бачыне гэтага нумару газэты, г. зн. поўную бібліятэчку, той плаціць за іх усяго толькі палавіну іхнай намінальнай цаны.** Таннай прадажы не падлягае толькі выбар паэзіі Янкі Купалы «Спадчына» **ў цьвёрдай палатнянай вокладцы,** а падлягае толькі **ў мяккай папяровай вокладцы,** намінальная цана якой выносіць 7 амэрыканскіх даляраў. Усе пералічаныя кніжкі разам з патрэтам Янкі Купалы каштуюць **24 амэрыканскіх даляры й 30 цэнтаў,** а на працягу студзеня 1957 году — месяца таннай беларускай кніжкі, яны будуць каштаваць толькі **12 амэрыканскіх даляраў і 15 цэнтаў,** або іхная раўнавартасьць у мясцовай валюце для краінаў паза Задзіночанымі Штатамі Амэрыкі й Канады. Затое пры розьнічнай прадажы паасобных кніжак, а ня поўнай бібліятэчкі, цана астаецца старая (нязьніжаная).

Купляць і выпісваць успомненыя кніжкі можна або беспасярэдна з Адміністрацыі газэты «Бацькаўшчыны» ў Мюнхэне, або з нашых Прадстаўніцтваў у паасобных краінах, адрасы якіх час ад часу падаюцца на апошняй бачыне нашае газэты.

Выдавецтва «Бацькаўшчына» ўжо разаслала сваім Прадстаўніцтвам ува ўсіх краінах расьсяленьня беларускае эміграцыі кнігі Выдавецтва «Бацькаўшчыны» з мэтаю прадажы іх падчас месяца таннай беларускай кніжкі. Ня высланыя яшчэ толькі дзьве кнігі: Юркі Віцьбіча «Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман» і Якуба Коласа «У палескай глушы», якія толькі гэтымі днямі выходзяць з друку. Таму калі гэтыя дзьве кніжкі ня будуць атрыманыя некаторымі нашымі Прадстаўніцтвамі да студзеня 1957 году, яны прыйдуць трохі пазьней і тады могуць быць дададзеныя ўсім тым, што раней закупяць поўную бібліятэчку нашых выданьняў па зьніжанай цане.

**Дарагія Суродзічы! Карыстайце з нагоды прыдбаць у собскасьць па зьніжанай напалавіну цане поўную бібліятэчку кніжак Выдавецтва «Бацькаўшчыны».**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

# Супраць савецкага імпэрыялізму...

(Працяг з 4-ай бачыны)

бомбай, але мы лічым, што маем права патрабаваць маральнае й матарыяльнае падтрымкі аднолькава ДЛЯ ЎСІХ НАРОДАЎ, што змагаюцца з крамлёўскай тыраніяй. Мы лічым сябе ў праве патрабаваць ад вольнага сьвету адмовіцца ад «ветлых усьмешкаў», абяцаньняў крамлёўскім забойцам мірнага зь імі сужыцьця й культурнага й эканамічнага супрацоўніцтва. Цывілізаваны сьвет у імя ратаваньня чалавецтва, а разам з гэтым і свае собскае годнасьці — павінен на ўвесь голас абвесьціць, што ён ня можа больш мець нічога супольнага з крамлёўскімі катамі і іхнымі спадарожнікамі ці поўспадарожнікамі. а што ўсе сымпатыі й уся магчымая дапамога — як маральная, гэтак і матарыяльная, будзе даная народам, якія змагаюцца за **поўную** іхную свабоду, за іхную незалежнасьць, за поўную й запраўдную дэмакратыю.

Паняволеныя народы чакаюць ад народаў вольнага сьвету гэткага слова, чакаюць такога чыну. І калі вольны сьвет адважыцца на гэта, гібель бальшавізму станецца няўхільнай бяз сусьветнае вайны, бяз атамнае ці вадароднае бомбы.

Разрыў з забойцамі, выгнаньне іхных агентур з вольнага сьвету, выгнаньне зь міжнародных ворганаў АЗН, ЮНЭСКО і г. д. ды замена іх супрацоўніцтвам з запраўднымі народнымі прадстаўніцтвамі, выгнанымі бальшавікамі зь іхных бацькаўшчынаў, было-б для крамлёўскіх забойцаў ня менш магутнай і ня менш разбуральнай бомбай, чымся атамная й вадародная.

З другога боку, мільённыя эміграцыі ўсіх паняволеных Крамлём народаў, перабываючыя ў вольным сьвеце, павінны шчыльней сьціснуць свае рады ў вадзін супольны фронт, стварыць адзін супольны штаб для змаганьня зь лютым бальшавіцкім тыранам.

Эміграцыі сатэлітных народаў павінны адмовіцца ад ілюзіяў нейкага быццам асобнага, больш прывілеяванага становішча іхніх народаў.

Падзеі ў Вугоршчыне наглядна паказалі, што над усімі намі вісіць адзін той самы і аднолькава дзеючы меч чырвонага крывавага Крэмля.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

Прадстаўнікі паняволеных савецкай Расеяй народаў Армэніі, Азэрбайджану, Беларусі, Казакіі, Крыму, Грузіі, Ідэль-Уралу, Паўночнага Каўказу, Туркестану і Украіны, задзіночаныя ў Лізе Вызваленьня Народаў СССР (Парыскі Блёк), сабраўшыся 11 лістапада 1956 году ў гатэлі Комодор на Лексынгтонскім праспэкце пры 42-й вуліцы ў Нью Ёрку на Вызвольным Мітынгу дзеля ўшанаваньня першых ахвяраў савецкае камуністычнае агрэсіі,

**гэтым сьцьвярджаюць:**

Камуністычная тыранія яшчэ раз паказала ў крывавай разьні вугорскага народу свой запраўдны твар.

На працягу 38 год, ад першага дня захопу ўлады Саветамі, іхная мэта была заўсёды аднэй, тэй самай і нязьменнай — заваёва й паняволеньне ў імя канчальнага сусьветнага панаваньня. Гэта было выразна азначана «вялікім настаўнікам і правадыром» Ленінам: «Раней мы захопім Цэнтральную Эўропу; пазьней — азіяцкія краі; тады мы акружым Задзіночаныя Штаты, якія ўпадуць у нашыя рукі, як перасьпелы плод». Із зьменай часу мяняліся мэтады, але ніколі — канчальная мэта.

У 1918 годзе, калі на руінах расейскае царскае імпэрыі ўсе нашыя народы на шырокай нерасейскай пэрыфэрыі скарысталі з даўгачаканай нагоды на нацыянальную незалежнасьць. Няволя царскага экспансіянізму, бязьлітасна накінутая ім, была зьнішчаная ўздымам рэвалюцыі; былі створаныя незалежныя рэспублікі. Але не надоўга. Саветы падмянілі царскую Расею. Першы ўдар савецкага расейскага імпэрыялізму, накіраваны супраць іх, не знайшоў зразуменьня ў вольным сьвеце. Свабодныя народы або не разумелі, або не хацелі разумець небясьпечных намераў Масквы. Яны захоўвалі наіўную надзею, што мірнае суіснаваньне з савецкай Расеяй магчымае коштам нашых народаў. Яны ня ведалі і не клапаціліся пра паняволеных. Яны таксама абыякава прыглядаліся. І гісторыя давяла, што яны памыліліся. Краі, якія прабавалі мірна суіснаваць з савецкай Расеяй, пасьля Другое Сусьветнае вайны зьніклі за зялезнай заслонай.

Злачынства за злачынствам адбывалася супраць паняволеных народаў. Гэта прадаўжаецца і цяпер пад сучасным маскоўскім рэжымам. Геносыд пры дапамозе штучна ўводжанага голаду, ліквідацыя Цэркваў, іхнае герархіі й сьвятарства, масавае вынішчэньне культурнае эліты або масавае нішчэньне цэлых народаў Паўночнага Каўказу й Крыму, зьняволываньне палітычных вязьняў у нязьлічоных лягерах прымусовае працы, насільныя вывазы сотняў тысяч у далёкія раёны Сібіру, вызначаюць панаваньне савецкае Расеі. Супраціў выказваны тыраніі й змаганьне за аднаўленьне незалежнасьці ніколі ня спыняліся. Воля й жаданьне быць вольнымі ніколі не памерла. Але змаганьне супраць бязьлітаснае пераважаючае сілы без дапамогі — безнадзейнае.

**Гэтым мы пастанаўляем:**

Выказваючы нашае шчырае падзіўленьне вугорскаму народу ў ягоным гэраічным змаганьні за свабоду і нашую глыбокую сымпатыю ў хвіліну народнага няшчасьця, мы цешымся, што справядлівая справа вугорскіх патрыётаў знайшла ўрэшце зразуменьне вольнага сьвету. Мы ўважаем за свой абавязак перасьцерагчы вольны сьвет, што свабода й незалежнасьць магчымыя й трывалыя толькі тады, калі ўсе паняволеныя народы будуць вольныя й незалежныя. Вызваленьне ўсіх паняволеных савецкай Расеяй народаў — гэта аснова міру ня толькі ў гэнай частцы свету, але міру ў цэлым сьвеце. Свабода павінна базавацца на нацыянальнай незалежнасьці ўсіх народаў, якія дамагаліся ды якія змагаліся за яе.

Падзел паняволеных савецкай Расеяй народаў шкодны для вольнага сьвету. Тое, што зьяўляецца праўдзівым адносна г. зв. «сатэлітных» народаў, — праўдзіва таксама і адносна нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу.

Мы зьвяртаемся да грамадзкае думкі ўсяго сьвету выказаць увесь магчымы націск на паасобныя ўрады, каб падтрымаць справу свабоды ня толькі заявамі, але й дзеямі. Розьніца між заявамі і акцыяй заходняга сьвету была запраўды трагэдыяй ня толькі нашых народаў, але цэлага сьвету.

(Заканчэньне ў наступным нумары)

# Прэпарацыя беларускай народнай песьні

(Заканчэньне з 6-ай бачыны)

родкаў выражэньня пры глыбіні эмацыянальнай. Гэта значыцца, зруйнаваць векавыя традыцыі й практыку пабудовы песьняў адшліфаваньне якіх на працягу доўгага часу прывяло да стварэньня шэдэўраў для сусьветнай скарбніцы фальклёру.

Калі-б гэта было ўсё ў іншай краіне, дык над тою бязглуздзіцай, абсурдам і дурніцаю, што гаворыць Эвальд, можна было-б толькі пасьмяяцца ды пажартаваць, але ў умовах савецкага рэжыму справа выглядае вельмі а вельмі сур'ёзна. У Эвальда і іншых савецкіх «вучоных» тыпу Эвальда, ёсьць асаблівыя прычыны гаварыць якраз тое, што трэба казаць. Савецкай уладзе не патрэбныя, навет варожыя нацыянальныя асаблівасьці народнага мастацтва, яна будуе сваё **сацыялістычнае мастацтва,** — штучную помесь, што складзена на грунце расейскага мастацтва й што мусяць вымяшаць і выляпіць савецкія музыкаведы. Аб такім «сацыялістычным гібрыдзе» дэклямуе й Эвальд выконваючы патрабаваньне партыйных гаспадароў. Нядарма ён рады таму, што беларускія песьні, гэтак званага «савецкага фальклёру» адышлі ад старых «абмежаваных», «замкнутых» беларускіх нацыянальных традыцыяў, чаму садзейнічала:

— «Цесныя ўзаемадзейнасьці зь песьнямі іншых народаў і раней за ўсё зь песьняй вялікага расейскага народу».

Вось-жа дзе, аказваецца, хавалася сутнасьць усёй справы. І цяпер зразумела, чаму не давяраюць дасьледчых працаў беларускім спэцыялістым. Яны, пэўне, ня ёсьць такія «гібкія», як Эвальд, і не наважваюцца гэтак бессаромна й ганебна ставіцца да сваёй роднай песьні, падтрымніваць цынізм савецкай гібрыдаізацыі. Адсюль ясна й тое, чаму першы Зборнік беларускай народнай песьні, выдадзены Беларускай Акадэміяй Навук (у 1940 г.), падрыхтоўваўся некім Рабцавам, а рэдагаваўся Гіпіусам і тым-жа Эвальдам — маскоўскімі й ленінградзкімі музыкаведамі, а ня ведамымі беларускімі песеньнікамі — Аладавым і Равенскім, якія ў той час якраз супрацоўнічалі ў Акадэміі Навук?

Нажаль, гісторыя прафанацыі беларускага песеннага фальклёру гэтым не абмяжоўваецца й гэтым не канчаецца. У вапошнія гады пытаньнямі дасьледаваньня кіруе ўжо Беларус, — музыкавед Цітовіч, якога мы яшчэ да вайны знаці, як няўтомнага зьбіральніка беларускай песеннасьці (у Заходняй Беларусі) й яе шчырага прапагандыстага. Мы ня будзем тут шукаць прычынаў таго, што змусіла Цітовіча гэтак «эвалюцыянізавацца» у савецкі бок, — гэта тэма асобная, але з прыкрасьцю мушу сьцьвердзіць, што ў сваіх выснавах Цітовіч, навет, перавысіў таго чужака Эвальда.

У 1925 г. у музычным часапісе СССР («Савецкая музыка») зьявіўся артыкул Цітовіча аб беларускай народнай песьні, дзе ён прабуе пераканаць у тым, якое дабратворчае дзеяньне аказвае на яе савецкая масавая песьня. Але ня гэта цікава ў артыкуле, паскольку тэкст яго ня йдзе далей звычайнай савецкай прапагандовай дэклярацыйнасьці, а цікавы прыклады песенных матываў, што Цітовіч прыводзіць дзеля характарыстыкі беднасьці й прымітыўнасьці беларускіх прыгонных песьняў і радасных «узбагачаных» матываў савецкага беларускага фальклёру. Усякі, хто хоць колькі небудзь знаецца на песьні, адразу ўбачыць запраўдную цану прыведзеным прыкладам. Прыгонныя песьні дзівяць сваім харастовом, мастацкай й эмацыянальнай яскравасьцю, у той час, як «новыя» песьні, што якраз і мусяць адлюстроўваць поўнакроўнае й шчасьлівае жыцьцё савецкае, выглядаюць такімі ўбогімі, прымітыўнымі, штучнымі, штампаванымі трафарэтамі звычайных масовак, што параўнаць іх да старых песьняў проста сьмешна. Артыкул Цітовіча быў-бы скандальным, калі-б зьявіўся не ў Савецкім Саюзе, дзе супраць прапаганды немагчыма што-небудзь сказаць. Сам аўтар, і іншыя музыкі пастараліся «ня заўважыць» ляпсусу гэтага «дасьледаваньня».

Другое публічнае выступленьне Цітовіча аб беларускай песеннасьці адбылося ў 1955 г. (у тым-жа часапісе «Савецкая музыка»), калі абыходзілася гадавіна аб'яднаньня Ўкраіны з Расеяй (пераяслаўскі дагавор). Тут Цітовіч ужо пераконваў у «ўтажсамлівасьці» беларускіх і ўкраінскіх песьняў і ў «адзінстве» расейска-украінска-беларускага песеннага фальклёру.

Звычайна, наўрад хто-б супярэчыў існаваньню таго ці іншага сваяцтва, адзінства карэньняў, сувязяў і ўзаемаўплываў славянскіх культураў, але заданьне вучонага ў тым, каб, адцеміўшы гэтыя акалічнасьці, **паказаць і прывесьці доказы іхніх характэрных адрозьненасьцяў, сваеасаблівасьцяў,** розьніцы ў іхніх гістарычных шляхох росту й разьвіцьця. Калі-ж сьцьвярджаць «адзінства», дык адпадае сэнс гаварыць аб існаваньні беларускай ці ўкраінскай песеннасьці.

Я ня меў магчымасьці чытаць чагось болей з «дасьледаваньняў» Цітовіча ў галіне беларускага песеннага фальклёру, але трэ' думаць, што такія былі й надалей, паскольку адно з апошніх выданьняў БССР па пытаньням мастацтва («Мастацтва Савецкай Беларусі, 1955 г.) паведамляе нам даслоўна наступнае:

— «Пяршынство належыць Цітовічу... у досьледах і навуковым раскрыцьці ўзаемных сувязяў беларускага песеннага фальклёру з рускім і ўкраінскім». Цітовіч сьцьвярджае: «Аднолькавыя гістарычныя ўмовы і адзіную крыніцу агульнарускай народнай культуры, адзінства паходжаньня шматвяковыя супольныя традыцыі».(?!).

Далей ўжо ісьці няма куды. Навет, калі я ўзяў стары расейскі энцыкляпэдычны слоўнік (Бракгауз і Эфрон, 1899 г.), дык і там было напісана:

— «Руская народная песьня дзеліцца на вялікарускую, маларускую й беларускую». Тут хоць штосьці **«дзеліцца»,** намякае на штосьці самабытнае, а вось у Цітовіча й гэта ўжо выглядае як «адзінае», «аднолькавае», «супольнае». Далёка, значыцца пайшлі савецкія вучоныя й нядарма «Мастацтва БССР» хваліцца, што беларускі песенны фальклёр:

— «узбагаціўся цэннымі зьбіраньнямі й дасьледаваньнямі».

Глыбока шкада, што трагічнасьць падобных «дасягненьняў» адчувае толькі нашае адыходзячае пакаленьне й у савецкіх умовах змушанае маўчаць аб гэтым, перажываць унутры. Але, яшчэ больш шкада таго, што бальшыня з маладога беларускага савецкага пакаленьня ўжо й цяпер губіць уяўленьне аб сваёй роднай, мілагучнай, сьціплай, але надзвычай прыгожай, ласкавай і душэўнай песьні, у якой чутны дух народу, ягоная гісторыя, ягоныя вольныя імкненьні, ягоныя векавыя традыцыі. Ляжыць цяпер гэты скарб народны ў архіўным пылу музэяў і кнігасховішчаў БССР, а на сьвет выйшаў савецкі эрзац, якому Эвальды й Цітовічы мусяць сьпяваць славу.

**Мікола Куліковіч**



БАЦЬКАЎШЧЫНА
Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.
Выдавец: Уладзімер Бортнік
РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ